# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

8 лютага 2019 года №6 (1241)

18+





**Стан беларускай мовы катастрафічны або ёсць чым цешыцца?**

старонкі 18-19



# Каб атрымаць даведку ў басейн або рэцэпт на лекі, смаргонцам не трэба ісці да доктара

Памочнік доктара Марына Падшывалава выпісвае рэцэпты, можа памераць цукар і праверыць зрок. Па прынцыпе доктара агульнай практыкі працуе тэрапеўтычнае аддзяленне №2 у Смаргоні.

старонка 21

Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

ISSN 1991–7155




Адсканюйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



# «Сцярпець усё гэта ніяк не магла»

## Алена Анісім расказала, чаму ідзе ў прэзідэнцкую кампанію і з-за чаго зняла сваю кандыдатуру ў 2014-м

**Дзеля чаго трэба старшыні Таварыства беларускай мовы ўдзельнічаць у прэзідэнцкай кампаніі? Гэта пытанне мы задалі Алене Анісім, дэпутату Палаты прадстаўнікоў.**

– У 2014 годзе ўжо была такая заява. Яна звязаная з тым, што пасля падзей у Крыме наша палітычная апазіцыя проста залягла на дно і ніякім чынам не выказвалася. Да мяне і **Алега Трусава**, які тады ўзначальваў ТБМ, прыйшлі прадстаўнікі патрыятычных сіл раіцца, што і як. Былі прапановы ўзначаліць да **Зінаіды Бандарэнкі**. Яна адказала: «Я лічу, што больш Алена падыходзіць».

Ну, што рабіць? Трэба пагаджацца. Прынялі рашэнне, пачалі працаваць. Адным з пытанняў было ўступленне ў сілу Еўразійскага эканамічнага саюза. Мы бачылі ў гэтым пагрозу і небяспеку для Беларусі – уцягванне ў чарговую структуру.

Напярэдадні ўступлення ў сілу гэтага пагаднення вырашылі правесці кангрэс незалежных сіл і прыняць маніфест у абарону.

Калі пачалі працаваць з палітычнымі структурамі, то нас падтрымала БНФ і сацыял-дэмакратычная партыя «Грамада», якую ўзначальвала **Ірына Вештард**. Усе астатнія адхрысціліся. Напэўна, гэта тыя, хто збіраў і ў той жа час працаваў супраць.

> **Хто хацеў сабраць патрыятычныя сілы і тут жа зрабіць усё, каб іх разваліць. Ёсць такія сацыялісты.**

Яны зрабілі ўсё, што, маўляў, Анісім заявіць пра сваё вылучэнне. Бачу, што гэта выклікае раскол, склікаем толькі кангрэс.

Праз некаторы час мяне запрасілі на тутбай. На сустрэчы меўся быць **Мілінкевіч**, але прыйшоў **Чавусаў**, ад камуністаў прыйшоў **Вазняк**. А пасля – **Андрэй Дзмітрыеў**, назіраў за размовай.

Задаюць пытанне, якія я бачу ў сабе моцныя бакі і якія слабыя. Адказала, што моцным лічу пазітыўнасць. А слабым – што жанчына.

> **І тут Вазняк кажа: «Як сказаць, гэта можа быць цікава». Праз два тыдні з'яўляецца кандыдатура Тацяны Караткевіч.**

Той, хто гэта рабіў, напэўна, разлічваў на сутыкненне між намі. З мясцовых структур ТБМ пачалі званіць «Што вы робіце!» І што мне рабіць – расколваць арганізацыю? Датрымалі да крытычнага часу і сказалі, што вырашылі не ўдзельнічаць у выбарах.

Пытанне ў тым, каго я бачу ў сваіх паплечніках. Наколькі гэта наша сіла, што дазволіць без пытанняў і сумненняў сабраць рэальныя 100 000 подпісаў.

Далей спачатку з'явілася публікацыя на «Калейдаскоп ру». Там да мяне прэтэнзіі, як некалі **Ізраілевіч** улетку ў сіянізме спрабаваў абвінаваціць. *(Сітуацыя, калі бізнесмен звярнуўся да Анісім «Навошта вы спрабуеце сабраць да кучы як мага больш яўрэяў і стварыць у нашай краіне нейкую сіяністкую змову». Мінская арганізацыя ТБМ з'яўляецца заснавальнікам выдання «Новы час», якое выступала з публікацыямі аб рэстаране «Паедзем, паядзім» побач з мемарыялам Курапаты. Ізраілевіч палічыў, што з публікацый вынікае аб яго датычнасці да будаўніцтва рэстарана – рэд.)*

Спачатку на публікацыю махнула рукой. А тады прыходжу на працу, скідваюць, што на іншым рэсурсе настолькі пагана на мяне, арганізацыю, «Новы час». І фраза, што мне «аддзячылі» месцам у парламенце за тое, што падтрымлівала Аляксандра Рыгоравіча. Не гэта мяне ўзбурыла, а тое, што ідзе спроба праз мяне наехаць на дзяржаўныя органы ўлады, што, маўляў, вы тут не тым займаецеся, тэрарызм разводзіце, няма чаго вам займацца беларусізацыяй. Сцярпець усё гэта я ўжо ніяк не магла.


Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Алена Анісім.

Калі б я і не збіралася ўдзельнічаць у палітычных кампаніях, то дзякуючы гэтым аўтарам, пасля такога «піяру» грэх не скарыстацца. Я была вымушаная ўзяць удзел.

> **Адказала, што як гэта так сталася – у Расіі карыстацца рускай мовай і любіць яе нармальна, а калі ты ў Беларусі з беларускай мовай ідзеш, то гэта ўжо злачынства.**

Для мяне паняцце беларусы – гэта грамадзяне Рэспублікі Беларусь. Незалежна ад нацыянальнай прыналежнасці і веравызнання.

Пасля ўбачыла па тэлевізары, як Жырыноўскі абвясціў, што гатовы ўнесці папраўкі ў канстытуцыю РФ, каб уключаць у склад Расіі іншыя дзяржавы.

Гарантам Канстытуцыі, захавання незалежнасці можа быць не адзін, а кожны, хто гатовы прэтэндаваць на пасаду прэзідэнта.

Гэта знак і для Расійскай Федэрацыі – на каго б вы ні рабілі стаўкі, у Беларусі кожны павінны прытрымлівацца гэтага.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

# Завод, дзе адрамантуюць усё: ад пярсцёнкаў да машын

## Дырэктар ААТ «Завод Рэмбыттэхніка» расказаў, як сёння працуе прадпрыемства

МАЛАДЗЕЧНА

**А вы ведалі, што ў Маладзечне ёсць прадпрыемства, дзе рамантуюць машыны і абутак, мыюць і шыюць бялізну, робяць спартыўныя трэнажоры, ювелірныя ўпрыгажэнні і шмат чаго яшчэ.**

Як атрымліваецца спалучаць столькі відаў дзейнасці, каб усе прыносілі прыбытак і задавальнялі кліентаў, падзяліўся дырэктар завода ААТ «Завод Рэмбыттэхніка», Чалавек года Міншчыны-2018 **Арцём Русакевіч**.

Узначаліў завод Арцём Мікалаевіч у складаны для прадпрыемства час. Сышоў расійскі вытворца, што рабіў тут вогнетушыцелі, а да АТТ «Завод Рэмбыттэхніка» далучылі стратны камбінат бытавога абслугоўвання. Але за пару год працы новага кіраўніка сітуацыя змянілася ў лепшы бок.

Адчынілі цэх металавырабаў. Стрэлачныя пераводы для вузкакалейных чыгунак ва ўсёй Беларусі робяць толькі тут. Выпускаюць спартыўныя трэнажоры, установкі для праверкі торфабрыкету, цялежкі для перавозкі грунту, часткі для мастоў.

У пустым будынку склада запрацаваў шынамантаж і СТА. Тут жа – аўтакрама, пескаструменная апрацоўка дыскаў і палімерная афарбоўка.

Захавалі вытворчасць ювелірных вырабаў, закупілі абсталяванне. Майстэрні працуюць у Маладзечне, Барысаве, Слуцку, Салігорску, Мінску, Астраўцы.

Яшчэ адзін накірунак – рытуальныя паслугі. Вянкі і труны вырабляюць на месцы і прадаюць праз тры салоны. Адчынілі рытуальную залу.

Рэнтабельна працуе швейны цэх. Кіраўнік шукае масавыя заказы. Шыюць пасцельную бялізну, ручнікі, коўдры, пледы, падушкі. Ёсць майстэрня па рамонце абутку.

Не так даўно адчынілі пральню. У новых нямецкіх машынках мыюць бялізну для школ, садкоў, бальніц, прыватных заказчыкаў.

Закупілі хімчыстку на вуглевадароднай сыравіне. Такімі карыстаюцца ў Заходняй Еўропе.

> **Не так даўно запрацаваў кароткі нумар аказання бытавых паслуг – 167. Тут дыспетчар падкажа, дзе ў Маладзечанскім раёне аказваюць пэўныя бытавыя паслугі.**

Працуюць тры цырульні. У адной з іх, «Купалінцы», ёсць адмысловае месца для дзяцей – крэселка і тэлевізар з мульцікамі. У сталіцы падгледзеў, прызнаецца дырэктар. Ва ўсіх цырульнях зроблены рамонт і працуюць прафесіяналы.


У швейным цэху.

Рамантуюць бытавую тэхніку. Супрацоўнічаюць з буйнымі вытворцамі халадзільнікаў, пральных машын.

З вясковымі КПП пакуль не ўсё так паспяхова. Аднак і іх выводзяць на рэнтабельнасць. Разыходзіцца бялізна, ручнікі і іншая прадукцыя ўласнай вытворчасці.

Сёння пад кіраўніцтвам Арцёма Русакевіча працуе 120 чалавек. Заробкі добрыя і ў тэрмін.

Праца дырэктара шматграннага прадпрыемства займае кожны дзень з раніцы да вечара і выхадныя. Калі ж надараецца вольны час, Арцём Русакевіч праводзіць яго з сям'ёй.

**Ксенія ДУРОВІЧ.**
**Фота аўтара.**

УНП 600153255


Наталля Цярэшчанка працуе ў пральні.


Дырэктар ААТ «Завод Рэмбыттэхніка» Арцём Русакевіч.

# Прыпісалі восем тон прывагі

ВІЛЕЙКА

**Праверкі Маладзечанскага міжраённага камітэта дзяржкантролю ў мінулым годзе паказалі, што некаторыя гаспадаркі працягваюць скажаць звесткі дзяржаўнай статыстычнай справаздачнасці.**




Каровам не хапала кармоў, таму выглядалі яны знясілена. А па паперах дапісалі восем тон прывагі.

У красавіку на малочнатаварных фермах «Мардасы» і «Стайкі» знайшлі 300 галоў буйной рагатай скаціны з прыкметамі моцнага знясілення. Прычыны – не хапала кармоў.

А каб стварыць ураджанне, што справы ў жывёлагадоўлі ідуць добра, у справаздачнасці прыпісвалі прывагі. І прыпісалі восем тон.

Былы кіраўнік прадпрыемства ў 2016 годзе даў справаздачу. У ёй пазначана, што ўводзяць у эксплуатацыю дзве сіласна-сянажныя пабудовы. Але на самой справе будаўніцтва не закончанае і не выкарыстоўваецца больш за два гады.

Некаторыя кіраўнікі сельгаспрадпрыемстваў раёна спрабавалі паказаць бачнасць ударнай пасяўной кампаніі. Таму сказілі дзяржаўную статыстычную справаздачнасць. На 1 кастрычніка прыпісалі больш за 2400 гектараў сяўбы азімых збожжавых. Так званая «арыфметычная памылка» ў гаспадарках вагалася ад 400 да 700 гектараў.

Пасля праверкі справаздачнасць прывялі ў парадак. У адносінах да чатырох службовых асоб узбудзілі крымінальныя справы, траіх аштрафавалі на агульную суму больш за 360 рублёў.

**Паводле паведамлення Маладзечанскага міжраённага камітэта дзяржкантролю.**

# Участкі пад будоўлю стаялі без справы пяць год

ВІЛЕЙКА

**Камітэт дзяржкантролю праверыў Асіпавіцкі сельвыканкам.**

Падчас агляду населеных пунктаў знайшлі дзесяць дамоў з закончаным будаўніцтвам. Яны з'яўляюцца аб'ектамі абкладання падаткамі. Узведзеныя фундамент, сцены, дах. Па іх падатак на нерухомасць не налічвалі і не сплачвалі.

Зямельныя ўчасткі выкарыстоўвалі не па мэтавым прызначэнні. На дзесяці з іх, якія аддалі пад будаўніцтва дамоў, больш за пяць год да працы не прыступалі.

На 12 дамах будоўля не была закончаная. Але сельвыканкам не ацаніў справу і не прыняў меры, каб спыніць правы на зямельныя ўчасткі.

Знайшлі парушэнні бухгалтарскага ўліку ў тым, як здавалі ў арэнду дзяржаўную маёмасць, скажалі дзяржаўную і ведамасную статыстыку, парушалі працэдуру закупак.

Па матэрыялах праверкі да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнулі Асіпавіцкі сельвыканкам і шэсць службовых асоб, да дысцыплінарнай – дзве службовыя асобы.

**Паводле паведамлення Маладзечанскага міжраённага камітэта дзяржкантролю.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 31.01 | 7.02 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.1584 | **2.1604** |
| Еўра | 2.4683 | **2.4599** |
| Злоты, 10 | 5.7447 | **5.7304** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.2672 | **3.2908** |
| Грыўня, 100 | 7.7754 | **8.0093** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 30.01 | 6.02 |
| Еўра | 2.4550/2.4750 | **2.4500/2.4680** |
| Долар ЗША | 2.1450/2.1620 | **2.1450/2.1620** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 30.01 | 6.02 |
| | Цана, руб. | |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,95 | **3,85** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 10,00 | **10,00** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,70 | **4,70** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,90 | **5,20** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,10 | **1,15** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,80 | **1,85** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,90 | **2,00** |
| Агуркі, 1 кг | 5,50 | **5,70** |
| Бульба, 1 кг | 0,50 | **0,60** |
| Буракі, 1 кг | 0,50 | **0,80** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,20 | **1,99** |
| Морква, 1 кг | 0,99 | **0,99** |
| Перац, 1 кг | 5,90 | **5,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Часнок, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Ананас, 1 кг | 2,80 | **–** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,30 | **3,30** |
| Бананы, 1 кг | 2,39 | **2,70** |
| Вінаград, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Грушы, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Лімоны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 2,90 | **2,90** |
| Хурма, 1 кг | 3,30 | **3,80** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,45 | **1,45** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Затрымалі па слядах на снезе

МАЛАДЗЕЧНА

34-гадовы п'яны мужчына пашкодзіў аўтамабіль і дзверы рэстарана ў Маладзечне. Падазраванага затрымалі па слядах на снезе.

Ноччу 26 студзеня ў дзяжурную службу Маладзечанскага РАУС паведамілі, што на Вялікім Гасцінцы невядомы пашкодзіў машыну, стукнуў гаспадыню аўтамабіля і знік у невядомым кірунку. На месца здарэння выехалі супрацоўнікі міліцыі.

Устанавілі, што, перасякаючы праезную частку, мужчына неабгрунтавана стукнуў нагой па кузаве аўтамабіля, што ехаў побач. За рулём знаходзілася 21-гадовая мясцовая жыхарка. Зрабіўшы мужчыну заўвагу, дзяўчына атрымала ўдар рукой у корпус, пасля чаго зламыснік схаваўся ў дварах.

Міліцыянеры па слядах на снезе вызначылі, дзе знаходзіцца фігурант, і затрымалі яго. Растлумачыць матывы свайго ўчынку мужчына не змог. Узбудзілі крымінальную справу па артыкуле «Хуліганства», санкцыя якой прадугледжвае да трох гадоў пазбаўлення волі.

Але аказалася, падазраваны ў начным хуліганстве пашкодзіў дзверы ў адным з рэстаранаў. Раніцай 27 студзеня ў міліцыю звярнуўся ўладальнік рэстарана хуткага абслугоўвання з заявай, што невядомы мужчына ноччу некальскі разоў стукнуў нагой па шкляных уваходных дзвярах.

Вывучыўшы запісы з камер відэаназірання, міліцыянеры пазналі фігуранта начнога інцыдэнту з машынай. Цяпер у дачыненні да яго распачалі і крымінальную справу па артыкуле 341 КК Рэспублікі Беларусь «Апаганьванне будынкаў і псаванне маёмасці».

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## У вяскоўца канфіскавалі дзвесце літраў самагону

Міліцыянеры знайшлі самагонны апарат і больш за тры з паловай тысячы літраў брагі ў жыхара Вязаўца.

Міліцыянеры засталі беспрацоўнага 40-гадовага вяскоўца на падворку, дзе той гнаў самагон. Са слоў мужчыны, ён наладзіў вытворчасць тыдзень таму для ўласных патрэб. Аднак аб'ёмы кажуць пра адваротнае. Акрамя апарата канфіскавалі 200 літраў гатовага прадукту, а 3700 літраў брагі знішчылі.

Ад устаноўленага ў хляве агрэгата адходы вытворчасці паступалі па трубах, пракладзеных пад зямлёй, у грузавы аўтамабіль, які стаяў у гаражы. Пры запаўненні ёмістасцяў яны вывозіліся і знішчаліся.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Зніклую ў Смаргоні жанчыну знайшлі загінулай

СМАРГОНЬ

Жыхарку Смаргоні **Я. Г.** 1965 года нараджэння знайшлі. Яна загінула.

Жанчына сышла з дому ноччу трэцяга лютага. Сваякі паведамілі пра яе знікненне.

Міліцыя знайшла жанчыну загінулай.

**Паводле пошукава-выратавальнага атрада «Анёл Поўнач-Захад».**

## Застолле скончылася бойкай і рабункам

МАЛАДЗЕЧНА

У РАУС звярнуўся 59-гадовы мужчына з заявай, што стаў ахвярай рабаўніка. Аказалася, падчас распівання спіртнога госць ударыў яго ў твар і выкраў з нагруднай кішэні сарочкі грошы. Інцыдэнт адбыўся на кватэры заяўніка.

Аказалася, заяўнік прыехаў з Расіі пагасціць да сына, жыхара Маладзечна. Прыезд стаў падставай для застолля. Да іх далучыўся знаёмы сына, 47-гадовы маладзечанец.

Увечары 2 лютага ў гаспадароў застолля скончыўся як алкаголь, так і наяўныя беларускія рублі. У прыезджага была толькі расійская валюта – 1500 рублёў у нагруднай кішэні яго сарочкі. Аднак траціць іх на спіртное мужчына адмовіўся. Тады госць ударыў яго ў твар і адкрыта скраў грошы. Сын хацеў заступіцца за бацьку, але таксама атрымаў удар ад дэбашыра.

З грашыма мужчына знік у невядомым накірунку. Але міліцыя затрымала зламысніка

> Скрадзеныя грошы мужчына паспеў патраціць на набыццё самагону. Матэрыяльныя страты склалі 49 рублёў.

Паводле аператыўнай інфармацыі, падазраваны раней фігураваў у крымінальных зводках па фактах дробнага хуліганства і прычынення цялесных пашкоджанняў. Цяпер мужчыну пагражае пазбаўленне волі да чатырох гадоў.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**



На месцы здарэння.

Фота забяспечана Тацццянай БЕЛАНОГ.

# У аварыі пацярпела дзіця. Справу маці-кіроўцы перададуць у суд

ВІЛЕЙКА

**Здарэнне адбылося ўвечары 21 верасня. 30-гадовая мінчанка на аўтамабілі Ford ехала па дарозе Краснае–Ілья–Пагост.**

Каля Сцешыцаў жанчына з'ехала ў кювет і стукнулася ў дрэва. Трохгадовы сын, што сядзеў у дзіцячым крэсле, атрымаў цяжкія траўмы.

Каб устанавіць абставіны здарэння, следчыя правялі экспертызы, апыталі ўдзельнікаў здарэння.

Па словах афіцыйнага прадстаўніка Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь па Мінскай вобласці **Тацяны Беланог**, следства ўстанавіла, што да ДТЗ на аўтадарозе перашкод і небяспекі для руху кіроўцу не было. Дарожныя ўмовы не ўплывалі на магчымасць кіравання машынай. Закругленне дарогі не было.

Прычынай ДТЗ стала тое, што жанчына павярнулася да сына і на нейкі час адцягнула ўвагу ад дарогі. Справу накіравалі пракурору для перадачы ў суд.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Ноччу гарэў мікрааўтобус. Пажар заўважыў кіроўца, што праязджаў міма

ВІЛЕЙКА

Чацвертага лютага каля гадзіны ночы, праязджаючы па вуліцы Інтэрнацыянальнай у Вілейцы, кіроўца заўважыў, што ў адным з двароў гарыць мікрааўтобус. Мужчына выклікаў выратавальнікаў.

З-пад капота аўтамабіля «Івека» 2009 года выпуску ішоў дым.

> Спецыялісты патушылі ўзгаранне. У выніку выгараў маторны адсек і частка салона.

– Грузавы бус «Івека» належаў адной з арганізацый. Кіроўца ставіў яго ў сваім двары, – расказаў карэспандэнту «Рэгіянальнай газеты» інжынер інспекцыі нагляду і прафілактыкі Вілейскага РАНС **Аляксандр Казакевіч**. – Гаспадар не выкарыстоўваў машыну ад 16:00 трэцяга лютага. Каб не выпадковы кіроўца, які заўважыў узгаранне, «Івека» магла б згарэць цалкам.

Верагодная прычына – кароткае замыканне электраправодкі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Як паляваць каля населеных пунктаў

Маладзечанская міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету нагадвае, што ў адпаведнасці з правіламі паляўнічай гаспадаркі і палявання ў паляўнічых угоддзях паблізу населеных пунктаў забараняецца страляць і знаходзіцца з зараджанай паляўнічай зброяй на адлегласці менш за дзвесце метраў ад крайняга будынка населенага пункта.

Таксама нельга страляць ў кірунку людзей, населеных пунктаў, сельскагаспадарчых жывёл, машын з агнястрэльнай гладкаствольнай паляўнічай стрэльбы на адлегласці менш за пяцьсот метраў да іх і з нарэзной паляўнічай зброі менш за два кіламетры.

Калі вы сталі відавочцам парушэння дадзеных правілаў, просім неадкладна паведаміць у Маладзечанскую міжраённую інспекцыю аховы жывёльнага і расліннага свету па тэлефонах: **8 (0176) 77-83-75, 8-029-601-48-86, 8- 029-305-78-80** або ў міліцыю.

**Васіль ПАЎЛАЎ, Маладзечанская міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету.**

## У віляйчаніна скралі самавар, набор ключоў, тэлевізійную антэну

ВІЛЕЙКА
МЯДЗЕЛ

29 студзеня ў міліцыю звярнуўся віляйчанін і папрасіў знайсці чалавека, які скраў рэчы з яго прыватнага дома па Стаханаўскай. Падазраванага ў крадзяжы затрымалі, скрадзенае вярнулі.

Выпадак пракаментаваў першы намеснік начальніка аддзела – начальнік крымінальнай міліцыі падпалкоўнік **Дзмітры Сухоцкі**:

– Праваахоўнікам пацярпелы расказаў, што невядомы пашкодзіў навясны замок, скраў з яго дома электрычны самавар, набор ключоў, тэлевізійную антэну і іншае.

> Устанавілі, што злачынства ўчыніў раней неаднаразова судзімы 46-гадовы жыхар Мядзела.

Узбудзілі крымінальную справу па артыкуле «Крадзеж». Санкцыя прадугледжвае пакаранне ў выглядзе папраўчых работ на тэрмін да двух гадоў або арышт, або абмежаванне волі на тэрмін да чатырох гадоў, або пазбаўленне волі на той жа тэрмін.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**



# ГАДЖЭТЫ НА ЛЮБЫ ЎЗРОСТ І ГУСТ

## Распавядаем, як выбраць мабільнікі, тэлевізары і камп'ютары, каб задаволіць усю сям'ю і кожнага паасобку

**Прывітанне, сябры! Давайце знаёміцца. Я – Святлана. Мы з мужам Сяргеем жывём у Маладзечне, гадуем двух сыноў: 7 і 15 гадоў. Як ставімся да гаджэтаў? Разумеем, што сёння без іх наўрад ці абыдземся мы і нашы дзеці.**

Піша Святлана БАЖКО.

Але заўсёды памятаем аб правілах карыстання і ведаем, як абраць правільную мадэль для кожнага з нас і для ўсёй сям'і.

### Разумны гадзіннік для другакласніка Стасіка

Наш сын Стасік ходзіць у другі клас. Мы, бацькі, хочам, каб сын заўсёды быў з намі на сувязі. Гэта трэба і для яго бяспекі, і для ўласнага, бацькоўскага, спакою.

Стасік – самастойны хлопчык. Але не такі адказны, як старэйшы брат. Таму для яго мы хацелі тэлефон недарагі і зручны. І знайшлі такі. Праўда, гэта не зусім тэлефон. А разумны гадзіннік.

Усё ж мабільнік – звычайна не танная рэч. А гадзіннік недарагі. Стасік не згубіць яго і не разаб'е. Галоўная функцыя гадзінніка-тэлефона – тэлефанаваць і адказваць на званкі. Гэта тое, што нам трэба.

### Надзейны і супрацьударны мабільнік для спартсмена-старшакласніка Антона

Антон – дзевяцікласнік, баскетбаліст. Цікавіцца гісторыяй і фізікай, займаецца баскетболам. Тэлефонам карыстаецца для званкоў, падрыхтоўкі ўрокаў, зносінаў з аднакласнікамі, прагляду баскетбольных спаборніцтваў, фатаграфавання, званкоў і шмат яшчэ для чаго.

Сын даўно прасіў у нас якую-небудзь надзейную і моцную мадэль. Хлопец ён дарослы і адказны, ведае кошт дарагім рэчам, але... Самі разумееце: гульні з аднакласнікамі, ровар, баскетбол. Не хочацца пасля перажываць з-за любімай пабітай рэчы.

Абралі тэлефон з надзейным корпусам і вялікім аб'ёмам памяці. Камера ў 13 мегапікселяў таксама задавальняе. Акрамя таго, што тэлефон супрацьударны, ён яшчэ воданепранікальны. Хто ведае, можа, наш спартыўны сын раптам надумае ўсур'ёз заняцца плаваннем?

### Прыгожы і «кемлівы» тэлефон для мужа-бізнесоўца

Муж у бізнесе – больш за 20 год. Таму добра памятае бізнес без мабільнікаў і тым больш можа ацаніць сённяшнюю зручнасць гэтых прылад.

Муж не толькі вядзе шмат перамоў па тэлефоне, а яшчэ часта сустракаецца з дзелавымі партнёрамі. Вядома, часта хочацца зрабіць на людзей добрае ўражанне. Таму не на апошнім месцы – прэзентабельны выгляд тэлефона. Апошні выбар мужа – смартфон у алюмініевым корпусе. Ён выдатна глядзіцца, яго зручна трымаць у руцэ. Да таго ж ёсць магчымасці запампаваць сюды розныя бізнес-дадаткі.

Пры выбары муж таксама звяртаў увагу на якасны акумулятар. Ёмістасці тэлефона хапае, каб размаўляць 14 гадзін запар.

### Вытанчаны і стыльны – для сябе любімай

Калі я набывала тэлефон сабе, глядзела на памер. Мой мабільнік – невялікі, з тонкім корпусам, мае зручную форму.

Працую выхавальніцай у дзіцячым садку. Таму звяртала ўвагу, каб у тэлефоне была добрая магчымасць праслухаць музыку. Мне гэта трэба і для працы з дзецьмі, і для таго, каб адпачыць і расслабіцца пасля працы.

Люблю сэлфі, зарэгістраваная ў інстаграме. Таму ніяк без добрай камеры і мабільных дадаткаў.

### Пяць парад, як выбраць камп'ютар

У тэлефонаў цяпер шмат магчымасцяў, але замяніць камп'ютар яны могуць не заўсёды. Калі тэлефоны ва ўсіх нас розныя, то камп'ютара хапае на сям'ю аднаго. Набылі мы яго гады чатыры таму. Як выбіраць?

• Не замарочвайцеся на вытворцы. Галоўнае, каб камп'ютар падабаўся знешне, меў прымальны кошт і зручную кнопку ўключэння.

• Вызначыцеся, для чаго патрэбны камп'ютар дома: для працы або для гульняў і забаў. Для офіснай працы будзе дастаткова чатырох мегабайтаў памяці, для гульняў – мінімум восем.

• Аматарам гульняў і забаў трэба звярнуць увагу на якасную відэакарту. А вось камп'ютару для офіснай працы асобная такая карта не патрэбная. Хапае мацярынскай платы.

• Паказчыкі для блокаў сілкавання таксама розныя: для гульняў патрэбны больш магутны, чым для набору тэкстаў і працы з табліцамі.

• І крыху пра манітор. Для гульняў і працы – не менш за 20 цаляў, для прагляду кінафільмаў – лепш ад 23.

У любым выпадку перад тым, як набыць гэту патрэбную рэч, варта пачытаць водгукі пра розныя мадэлі і пракансультавацца са спецыялістам.

### І яшчэ чатыры – як тэлевізар

На тэлевізар часу застаецца ўсё менш. Але калі надараецца вольная гадзінка-другая, наша сям'я любіць паглядзець добры фільм. Таму да выбару тэлевізара таксама падыходзілі сур'ёзна.

• Вызначылі бюджэт. Цэны на тэлевізары неабмежаваныя. Таму добра падумайце, колькі вы гатовыя выдаткаваць.

• Падумалі пра габарыты. Мы не з тых, хто лічыць: набудзем, а там павесім дзе-небудзь. Адразу ўлічылі памер пакоя і месца размяшчэння.

• Даведаліся пра тып матрыцы. Пра яе ёсць шмат сур'ёзных навуковых тлумачэнняў. Проста ж сказаць можна так: экран з матрыцай AMOLED выйграе ў LED, бо можа паказаць вам сапраўдны чорны колер. Таму AMOLED-экран значна даражэйшы.

• Звярнулі ўвагу на гук. Добрая акустычная сістэма вялікая па памеры, а тэлевізары імкнуцца рабіць тонкімі і лёгкімі. Нас задаволіў гук тэлевізара. Калі ж вы прыхільнік таго, каб грукатала і бамбіла, лепш акустычную сістэму купляць асобна. •





● КАЛЯНДАР

8 ЛЮТАГА

**1909.** 110 гадоў назад не стала **Мечыслава Карловіча**, знакамітага кампазітара і дырыжора, фатографа і публіцыста. Нарадзіўся 11 снежня 1876 года ў Вішневе, цяпер Смаргонскі раён. Вішнева ў той час належала яго бацькам. Быў сынам Ірэны Суліструоўскай і Яна Аляксандра Карловіча, вядомага этнолага і моваанаўцы. Шэсць гадоў ад нараджэння пражыў на радзіме. У 1882 Карловічы прадалі маёнтак і пераехалі спачатку ў Гайдэльберг, потым у Прагу і Дрэздэн, а ў 1887 пасяліліся ў Варшаве. Вядомасць атрымаў дзякуючы сваім сімфанічным кампазіцыям. У шэрагу створаных ім музычных твораў абапіраўся на беларускія народныя мелодыі. Сярод іх – знакамітая сімфонія пад назвай «Літоўская рапсодыя» (1906 г.). Аматар гор Татраў, дзе трагічна загінуў падчас раптоўнага сыходу снежнай лавіны.

**1826.** Нарадзіўся **Аляксандр Валіцкі** (Вільня), выдавец, музычны крытык, спявак, удзельнік паўстання 1863-1864 гг. У 1863 годзе заснаваў у Мінску кнігарню. У 1863 годзе за ўдзел у антыўрадавых дэманстрацыях сасланы ў Тамбоў. Кнігарню пераняла яго сястра Соф'я Савіцкая. У 1890–1893 гадах быў захавальнікам бібліятэкі і архіва Радзівілаў у Нясвіжы.

**1914.** 105 гадоў з дня нараджэння **Валянціна Таўлая**, паэта, дзеяча заходнебеларускага нацыянальнага руху.

9 ЛЮТАГА

**1913.** У Вільні адбылася першая пастаноўка п'есы Янкі Купалы «Паўлінка».

10 ЛЮТАГА

**1938.** У Вязьме (Смаленская вобл.) расстраляны **Максім Гарэцкі**, пісьменнік, літаратуразнаўца, фалькларыст, лексікограф, мысляр. Адзін з пачынальнікаў нацыянальнай мастацкай прозы. Нарадзіўся 18 лютага 1893 года.

13 ЛЮТАГА

**1974.** 45 гадоў назад у Будславе памерла **Паўліна Мядзёлка**, актрыса, дзеяч культуры. Пахаваная ў Будславе.

14 ЛЮТАГА

**1989.** 30 гадоў назад у Канадзе памёр **Вінцэнт Жук-Грышкевіч**, педагог, гісторык, літаратуразнаўца, дзеяч эміграцыі ў Італіі, Вялікабрытаніі, Германіі і Канадзе, старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі (1970-1982 гг.). Пахаваны на беларускіх могілках у Іст-Брансвіку (Нью-Джэрсі, ЗША). Нарадзіўся 10 лютага 1903 года ў Будславе.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

● ПАМІЖ КАМУНІСТАМІ І ФАШЫСТАМІ

# «Садралі пазногці і павыдзіралі валасы»

## Якім было жыццё ў ваенны час у ваколіцах Веркаўлянаў. Частка 4

*Працяг. Пачатак у №№3, 4, 5.*

ВІЛЕЙКА

**Год нечалавечай цяжкай працы, у голадзе і холадзе. Гэта не давала ніякай надзеі на вызваленне і на жыццё. Вызвалялі зняволеных з канцлагера амерыканцы, якія з самых першых дзён забяспечылі вызваленых поўным рацыёнам харчавання і больш-менш жыллёвымі ўмовамі.**



Гэты сад памятае і 1939-ы, і 1941-ы гады.

Яны прапаноўвалі месца жыхарства ў любой краіне свету. Абявязалі адправіць усіх ахвотных туды, куды ім самім даспадобы. Шмат хто са зняволеных пажадаў не вяртацца ў СССР. З'язджалі галоўным чынам у Амерыку.

### Адмовіліся ад жыцця ў Амерыцы

Тамара Васілеўна і пляменнікі адмовіліся ад амерыканскай прапановы. Пасля шкадавалі, але было позна. Савецкае камандаванне, у адрозненне ад амерыканцаў, не спяшалася вяртаць з Германіі былых зняволеных суайчыннікаў. Да восені жылі ў Вольфан-гарадку ў пакінутых немцамі дамах. Харчаваліся, як прыйдзецца, даводзілася і красці.

Вярнуліся ў Куляшы толькі восенню. А дома ўсіх чакалі новыя выпрабаванні. Брат Міхаіл падчас вызвалення Вілейкі ў 1944-м яшчэ быў у бальніцы і цудам застаўся ў жывых, але восенню 1945-га памёр – так і не змог аднавіцца пасля катаванняў лунінцамі.

У 1946-м памёр тата Васіль Якаўлевіч. Праз год ад сухотаў – сястра Клаўдзія. Брат Канстанцін, прайшоўшы праз усю вайну, вярнуўся з фронту са шматлікімі ўзнагародамі. У 1946 годзе савецкая ўлада яго прымусова адправіла на раку Волгу ў рыбалавецкую арцель.

Сын загінулай сястры Мары, Аляксандр, вярнуўся з фашысцкага лагера. У 1946-м яго накіравалі ў Карэлію на лесанарыхтоўкі.

### Страшэнныя падаткі калгаса

Сям'я Куляшоў засталася цалкам без мужчынскай сілы, без коней і каровы. Адна толькі была радасць – знайшлі карову, якая знікла яшчэ пасля апошняй блакады, калі ўсіх жыхароў Куляшоў захапілі фашысты. Знайшлася выпадкова, у Лугавых. Новы «гаспадар» адразу ж вярнуў яе Дар'і Сцяпанаўне. Сказаў, што сама прыбілася ў іх вёску праз тыдзень пасля блакады. Чыя яна, ніхто не ведаў.

У 1947-м саветы арганізавалі калгас, пазбавілі ўсіх сялян зямлі, пакінуўшы толькі па 60 сотак. Распачалася павальная калектывізацыя. Каго ўгаворамі, а каго запужваннем. Пагражалі дэпартацыяй усім, хто прыпадаў пад раскулачванне, і тым, каго немцы вывозілі ў Германію. Даводзілася шукаць магчымасці, каб напісаць паперы, якія пацвярджалі, што не былі ў лагерах.

– Падаткі былі страшэнныя, – кажа Тамара Васілеўна. – Акрамя калгаснай працы, трэба было здаваць аброк у калгас. А гэта масла 20 кілаграмаў альбо 400 літраў малака. Мяса таксама кіль 30-40, і яшчэ шмат усяго. Таму, хто не спраўляўся здаць гэты падатак, пагражала дэпартацыя. Прыходзілася выкручвацца.

Пасля смерці Сталіна вярнуліся дадому з Волгі брат Канстанцін і пляменнік Аляксандр з Карэліі, якога ў 1958 годзе прызналі малалетнім вязнем фашысцкіх лагераў. Але гэты статус так і не ўдалося скарыстаць. Хутка ён памёр ад сухотаў. Тамару Васілеўну і іншых вяскоўцаў вязнямі фашысцкіх лагераў прызналі толькі ў 90-х гадах мінулага стагоддзя, праз 50 год пасля перамогі.

### Адкуль назва «Веркаўляны»

У 1955 годзе на вечарынцы ў Карпавічах Тамара Васілеўна сустрэлася з хлопцам, старэйшым на дзесяць год. У тым жа годзе пажаніліся. У іх лёсах было шмат агульнага. Абодва з працавітых і заможных сялянскіх сямей, у якіх «вызваленчая» савецкая ўлада адабрала ўсё дабро, гаспадарку і нерухомасць, нажытыя потам і крывёй, што перадаваліся з пакалення ў пакаленне ў спадчыну. У абаіх гінулі родныя як падчас «вызваленчай» місіі, так і ў гады фашысцкай акупацыі.

Абраннікам стаў хлопец з былога 160-гектарнага фальварка пана Серлюкевіча **Аляксандр Пятровіч Сянько**. Фальварак гэты ў пачатку мінулага стагоддзя перайшоў ва ўласнасць дзеду Аляксандра Пятровіча, **Ігнату Сянько** з Корсакаў каля Алёхнавічаў і **Яну Казакевічу** са Смаргоншчыны.

Род Сянько ідзе з корсакаўскіх заможных сялян. Ігнат яшчэ маладым пры падтрымцы бацькоў узяў у арэнду 10 гектараў зямлі ў Алёхнавічах, каб зарабіць грошы на будучую ўласную гаспадарку. Працавітасць і кемлівасць за чатыры гады далі станоўчыя вынікі. Атрымаўшы нядрэнныя грошы ў жывёлагадоўлі, ён цалкам разлічыўся па ўсіх рахунках. А за астатнія ўдвух з Казакевічам адкупілі ўвесь фальварак у пана Серлюкевіча.

Дакументы афармілі ў роўных долях, па 80 гектараў кожнаму. Так да аднаго сядзібнага дома на фальварку дадаўся другі. Само месца новыя гаспадары з двухбаковай згоды пачалі называць у гонар жонкі Ігната **Веркі** Веркаўлянамі. Вось так узнікла новая адміністрацыйная адзінка. Запушчаная былым гаспадаром панам Серлюкевічам гаспадарка дзякуючы працавітым рукам пачала мацнець.

Разам з гаспадаркай павялічвалася і мацнела сям'я Ігната. З'явіліся сыны Феадось, Пётра, Мікалай і дачка Пелагея. Дзеці павырасталі і знайшлі сваіх палавінак, пачалі будаваць сямейныя гнёзды. Пасля смерці Ігната кіраўніцтва сямейнай гаспадаркай узваліў на сябе Феадось – як старэйшы ў родзе.

Пётра моцна хварэў, і ў сярэдзіне 30-х гадоў яшчэ маладым памёр, пакінуўшы траіх дзяцей на жонку Агату. Псаломшчык Сцяпан Ляшкевіч з Хаценчыцкай царквы дзяцей Агаты ўзяў пад сваю апеку. Той даводзілася працаваць разам з усімі на немаленькай агульнаўласнай гаспадарцы. На пачатку 1939 года ў гаспадарцы былі кароўнік з 16 галоў дойнага статка, цяляты, бык, авечкі з тры дзясяткі, свінарнік са свінаматкай, усялякая птушка. Для апрацоўкі зямлі былі тры пары коней з прыладамі. Свае жняярка, малатарня, збожжаачыстка «Арфа».

Вялізны ў некалькі гектараў сад, частка якога захавалася да сёння. У ім стаяла паўтары сотні вуллёў. Сёння іх там некалькі дзясяткаў. Прапраўнукі Ігната Сянько, Леанід і Мікалай, працягваюць дынастыі роду.

**Алесь РАТКЕВІЧ,**
**Чысць.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**

*Працяг будзе.*

● ПАКУЛЬ ІДЗЕ РЭКЛАМА

# Расліна

## Вашы патрабаванні да жыцця



З кнігі «Сто графічных тэстаў».

**Тут нарысавана частка нейкай расліны. Вам трэба завяршыць карцінку. Якую расліну вы ўбачыце ў дадзеным фрагменце, ці захочаце дапоўніць фонам асноўны малюнак, вырашайце самі.**

### Ключ да тэста

• **Калі вы ўбачылі ў гэтым рысунку і дарысавалі ДРЭВА,** то гэта гаворыць пра тое, што вашыя патрабаванні да жыцця досыць сціплыя. Вы працавітыя і цягавітыя, для нармальнага існавання вам трэба толькі самае асноўнае, без празмернасцяў.

• **Калі вы ЗРАБІЛІ ЎПОР НА КАРАНІ ДРЭВА І ЗЯМЛЮ,** то гэта значыць, што вы маеце патрэбу ў сяброўскім разуменні і ўвазе блізкіх людзей, душэўны камфорт і сваяцкія сувязі для вас важней за матэрыяльныя выгоды.

• **Калі вы ПАДРАБЯЗНА АБРЫСАВАЛІ КРОНУ ДРЭВА,** то гэта азначае ваша жаданне дамагчыся поспеху сваёй працай. Вы не патрабуеце ад жыцця падарункаў, вы гатовыя працаваць не пакладаючы рук, але хочаце, каб ваш праца добра аплачвалася, прыносіла вам задавальненне – і маральнае, і інтэлектуальнае, і матэрыяльнае.

• **Калі вы нарысавалі ПАКАЁВУЮ РАСЛІНУ Ў ГАРШКУ,** то гэта гаворыць пра тое, што вы не ўяўляеце сабе жыцця без пэўнага камфорту. Вам патрэбны нейкі ўзровень матэрыяльнага дастатку, каб адчуваць сябе шчаслівым. Вы зусім не можаце цярпець нягоды, вы не здольныя працаваць у цяжкіх умовах. Калі вас пазбавіць таго, да чаго вы прывыклі, вы зламаецеся, будзеце пакутаваць і нават не падумаеце змагацца з неспрыяльнымі жыццёвымі фактарамі.

• **Калі вы РЫСУНАК ПАКАЁВАЙ РАСЛІНЫ ДАПОЎНІЛІ ФОНАМ,** то гэта гаворыць пра тое, што вашы патрабаванні да жыцця пастаянна ўзрастаюць.

• **Калі вы нарысавалі БУКЕТ,** то гэта значыць, што вы маеце патрэбу ў клопаце блізкіх людзей, вы не ўмееце і не любіце праяўляць самастойнасць, вы прывыклі спадзявацца на іншых. Вы з тых, каго песцяць з дзяцінства. Вы будзеце адчуваць сябе выкінутым за борт жыцця, калі раптам пазбавіцеся звыклай для вас апекі і ўвагі.

• **Калі вы ўбачылі ў гэтым рысунку БУТОН КВЕТКІ,** то гэта гаворыць пра тое, што вашы патрабаванні да жыцця пакуль яшчэ не сфарміраваліся, ваша асоба толькі развіваецца. Вы можаце выхаваць сябе самі альбо стаць ахвярай абставін, гэта залежыць ад вас саміх.

• **Калі вы нарысавалі АНАНАС,** то гэта значыць, што вы ўсёй душой і целам імкнецеся да раскошы, вам падабаецца прыгожа апранацца, вы гурман і эстэт. Нават у цяжкія перыяды жыцця вы стараецеся ладзіць сабе святы, аазісы раскошы сярод цяжкага і неўладкаванага быту. Вы ўмееце радавацца жыццю.





## 8 канал

ВОСЬМОЙ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 11 ФЕВРАЛЯ**

**7.00, 15.55, 19.00, 21.05, 0.40** «Погода».
**7.05, 16.05** «Мульт-парад».
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«ИВАН ВАСИЛЬЕВИЧ МЕНЯЕТ ПРОФЕССИЮ».**
**9.00** Д/с «Родовые проклятья».
**9.30, 19.05** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.30** Д/ф.
**11.00** Х/ф **«ЗВЕЗДА ПЛЕНИТЕЛЬНОГО СЧАСТЬЯ».**
**13.55** Т/с **«ХВАРАН».**
**16.30** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**17.20** Х/ф **«ГЛУБОКОВОДНЫЙ ГОРИЗОНТ».**
**20.00** Т/с **«МЕРТВАЯ ЗЫБЬ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«МОЛЧАНИЕ ЯГНЯТ».**
**23.15** Х/ф **«МОРСКОЙ ПЕХОТИНЕЦ».**

**ВТОРНИК, 12 ФЕВРАЛЯ**

**7.00, 15.55, 19.00, 21.05, 1.15** «Погода».
**7.05, 16.05** «Мульт-парад».
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«ГЛУБОКОВОДНЫЙ ГОРИЗОНТ».**
**9.10** Д/с «Дорога в школу».
**9.35, 19.05** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.30** «Мой любимый питомец».
**11.00** Х/ф **«МОЛЧАНИЕ ЯГНЯТ».**
**13.00** Т/с **«МЕРТВАЯ ЗЫБЬ».**
**14.00** Т/с **«ХВАРАН».**
**16.30** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**17.20** Х/ф **«КУХНЯ В ПАРИЖЕ».**
**20.00** Т/с **«ОПРАВДАННЫЙ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ПЕРЕГОН».**
**23.40** Х/ф **«ДРЕЙФ».**

**СРЕДА, 13 ФЕВРАЛЯ**

**7.00, 15.55, 18.55, 21.05, 0.55** «Погода».
**7.05** Мульт-сериал.
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«КУХНЯ В ПАРИЖЕ».**
**9.10** Д/с «Обучите моего питомца».
**9.35, 19.00** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.30** «Китайский Новый год».
**11.00** Х/ф **«ВАМ ПИСЬМО».**
**13.00, 20.00** Т/с **«ОПРАВДАННЫЙ».**
**14.00** Т/с **«ХВАРАН».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.30** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**17.20** Х/ф **«В СПОРТЕ ТОЛЬКО ДЕВУШКИ».**
**20.45** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«СХВАТКА».**
**23.15** Х/ф **«ЧИСТОЕ ИСКУССТВО».**

**ЧЕТВЕРГ, 14 ФЕВРАЛЯ**

**7.00, 15.55, 19.00, 21.00, 0.45** «Погода».
**7.05** Мульт-сериал.
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«В СПОРТЕ ТОЛЬКО ДЕВУШКИ».**
**9.00** Д/с «Путешественник».
**9.30, 19.05** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.30** Мультфильмы.
**11.00** Х/ф **«СХВАТКА».**
**13.00, 20.00** Т/с **«ОПРАВДАННЫЙ».**
**13.55** Т/с **«ХВАРАН».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.15** «Мой любимый питомец».
**16.45** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**18.25** Д/ф «ГОРОД С ИСТОРИЕЙ».
**18.50** «Фешн is my професhн».
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** Х/ф **«СПАСИБО, ЧТО ЖИВОЙ».**
**23.20** Х/ф **«ВЛЮБЛЕН ПО СОБСТВЕННОМУ ЖЕЛАНИЮ».**

**ПЯТНИЦА, 15 ФЕВРАЛЯ**

**7.00, 15.55, 18.55, 21.00, 0.40** «Погода».
**7.05** Мульт-сериал.
**7.25, 16.00** «Юморинка».
**7.30** Х/ф **«СУПЕРГЕРОЙ».**
**9.00** Д/ф «ГОРОД С ИСТОРИЕЙ».
**9.30, 19.00** Т/с **«КАНДИС РЕНУАР».**
**10.25** «Рисуя Китай».
**10.50** Х/ф **«СПАСИБО, ЧТО ЖИВОЙ».**
**13.05, 20.00** Т/с **«ОПРАВДАННЫЙ».**
**13.55** Т/с **«ХВАРАН».**
**16.05** «Мульт-парад».
**16.15** Т/с **«ПУАРО АГАТЫ КРИСТИ».**
**18.00** «Китайский Новый год».
**18.25** «Мой любимый питомец».
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** Х/ф **«ПОСЛЕДНЯЯ БИТВА».**

**СУББОТА, 16 ФЕВРАЛЯ**

**7.00, 18.55, 21.15, 1.05** «Погода».
**7.05** Мультфильмы «Барашек Шон».
**7.15** Д/с «Дикая природа России».
**8.00** Мультфильмы «Леди и бродяга».
**9.25** «Утрямдия».
**9.30** Искусство-кино «О бедном гусаре замолвите слово».
**12.15** Х/ф **«ПЕРЕГОН».**
**14.40** «Отвечайка».
**14.45** Мультфильмы «Принцесса Мононоке».
**17.00** Х/ф **«ХОРИСТЫ».**
**18.40** «Друзья дедушки Марко».
**19.00** Х/ф **«БЛЕФ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.05** «Фешн is my професhн».
**21.20** Х/ф **«ИЛЛЮЗИЯ».**
**23.30** Х/ф **«ДЕВЯТЬ ЯРДОВ».**

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 17 ФЕВРАЛЯ**

**7.00, 16.05, 19.00, 21.10, 23.50** «Погода».
**7.05** Мультфильмы «Барашек Шон».
**7.15** Д/с «Дикая природа России».
**8.00** Мультфильмы «Принцесса лебедь».
**9.25** «Утрямдия».
**9.30** «Мой любимый питомец».
**10.00** «Китайский Новый год».
**10.30** Х/ф **«ИВАН ВАСИЛЬЕВИЧ МЕНЯЕТ ПРОФЕССИЮ».**
**12.00** Х/ф **«ИЩУ ДРУГА НА КОНЕЦ СВЕТА».**
**13.45** Х/ф **«СПАСИБО, ЧТО ЖИВОЙ».**
**16.10** «Смотрим всей семьей»: «Королевство кривых зеркал».
**17.35** «Мульт-парад».
**17.55** «Отвечайка».
**18.00** «Друзья дедушки Марко».
**18.15** Т/с **«КАСЛ».**
**19.05** Х/ф **«ВОЛНА».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ВОЗВРАЩЕНИЕ ДОМОЙ».**



## МКТВ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 11 ФЕВРАЛЯ**

**6.15** Песня на завтрак.
**6.30** Х/ф **«ЗЕЛЕНЫЙ ШЕРШЕНЬ».**
**8.25** Х/ф **«ИМЯ».**
**10.20** Х/ф **«МАЯ РАДЗІМА».**
**10.35, 14.35, 15.15, 22.20** Мажорный лад.
**13.00** Х/ф **«МОЕ БОЛЬШОЕ ГРЕЧЕСКОЕ ЛЕТО».**
**15.00, 18.00** Новости БЖД.
**17.40, 19.20** Будьте здоровы: зимний травматизм.
**18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**20.20** Х/ф **«ЛЕГОК НА ПОМИНЕ».**

**ВТОРНИК, 12 ФЕВРАЛЯ**

**5.30, 7.15** Песня на завтрак.
**6.10, 7.50, 8.15, 18.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.25** Х/ф **«ШЕФ».**
**9.50** Х/ф **«РОЖДЕСТВЕНСКИЕ ХРОНИКИ».**
**11.30** Х/ф **«СКАНДИНАВСКИЙ ФОРСАЖ».**
**13.05** Х/ф **«МОЕ БОЛЬШОЕ ГРЕЧЕСКОЕ ЛЕТО».**
**14.40** Х/ф **«МОШЕННИКИ».**
**16.15** Х/ф **«ЛЕГОК НА ПОМИНЕ».**
**17.35, 22.20** Мажорный лад.
**19.20** Спортлайф.
**20.20** Х/ф **«О ЧЕМ МОЛЧАТ ДЕВУШКИ».**

**СРЕДА, 13 ФЕВРАЛЯ**

**6.05, 7.15, 9.35** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 17.20, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**8.15** Х/ф **«ЛЕГОК НА ПОМИНЕ».**
**10.35** Х/ф **«БОЛЬШОЙ СОЛДАТ».**
**12.10** Х/ф **«БАРХАТНЫЕ РУЧКИ».**
**13.50** Х/ф **«ДЖЕНТЛЬМЕНЫ УДАЧИ».**
**15.30, 17.30, 19.15, 22.20** Мажорный лад.
**16.30** Кухня в Париже.
**20.30** Музыкальная открытка.

**ЧЕТВЕРГ, 14 ФЕВРАЛЯ**

**6.40, 7.15, 8.15** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.40** Смайлик.
**9.10** Х/ф **«МЕЖДУ АНГЕЛОМ И БЕСОМ».**
**11.05** Х/ф **«ШПИОН ПО СОСЕДСТВУ».**
**12.40** Х/ф **«ЗЕЛЕНЫЙ ШЕРШЕНЬ».**
**14.45** Х/ф **«БОЛЬШЕ ЧЕМ ДРУГ».**
**16.30, 22.20** Мажорный лад.
**19.20** Будьте здоровы: зимний травматизм.
**20.20** Х/ф **«ОЧЕНЬ ОПАСНАЯ ШТУЧКА».**

**ПЯТНИЦА, 15 ФЕВРАЛЯ**

**5.20, 7.20, 8.20** Песня на завтрак.
**6.50, 18.50, 19.50, 21.50** Афиша.
**7.00, 8.00** Новости: время местное.
**10.00** Х/ф **«МОШЕННИКИ».**
**11.35** Х/ф **«СВИДЕТЕЛЬ НА СВАДЬБЕ».**
**13.10** Х/ф **«ПОВЕЛИТЕЛИ СНОВ».**
**14.30** Х/ф **«БАРХАТНЫЕ РУЧКИ».**
**16.10, 19.30, 22.30** Мажорный лад.
**19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**20.30** Музыкальная открытка.

**СУББОТА, 16 ФЕВРАЛЯ**

**6.30, 8.40** Песня на завтрак.
**6.50, 7.50, 8.30, 18.50, 19.50** Афиша.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**7.30, 19.30** Будьте здоровы: зимний травматизм.
**9.40** Х/ф **«КУХНЯ: ПОСЛЕДНЯЯ БИТВА».**
**11.15** Х/ф **«СУПЕРГЕРОЙСКОЕ КИНО».**
**13.00** Х/ф **«УЛЬТРААМЕРИКАНЦЫ».**
**14.40** Х/ф **«СВИДЕТЕЛЬ НА СВАДЬБЕ».**
**16.15, 21.10** Новости БЖД.
**20.30** Желаем вам.
**22.30** Мажорный лад.

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 17 ФЕВРАЛЯ**

**6.30** Х/ф **«АФЕРИСТЫ ПОНЕВОЛЕ».**
**8.05** Х/ф **«БАРХАТНЫЕ РУЧКИ».**
**9.45** Х/ф **«БОЛЬШАЯ СВАДЬБА».**
**11.10** Х/ф **«БОЛЬШЕ ЧЕМ ДРУГ».**
**12.55** Х/ф **«ДЖЕНТЛЬМЕНЫ УДАЧИ».**
**14.35** Х/ф **«ДИКАЯ ШТУЧКА».**
**16.10** Х/ф **«БОЛЬШОЙ СОЛДАТ».**
**17.45** Х/ф **«ИДЕАЛЬ».**
**19.15, 22.10** Х/ф **«МАЖОРНЫЙ ЛАД».**
**20.20** Х/ф **«ИМЯ».**

# ці ёсць чым цешыцца?


Дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу і старшыня Таварыства беларускай мовы Алена Анісім.


Былы дэпутат Чысцінскага пасялковага савета Алесь Раткевіч.


Былы кіраўнік спраў Маладзечанскага райвыканкама Валяр'ян Кавалевіч.


Выхавальнік беларускамоўнай групы смаргонскага садка №8 Эдзіта Бранцэвіч.


Галоўны рэдактар «Рэгіянальнай газеты» Аляксандр Манцэвіч.



Прадпрымальнік і бард з Вілейкі Алесь Наркевіч.

ными рэчамі і зрабіў на гэтым бізнес. Ладзяць розныя мерапрыемствы – выставы, танцы. Спачатку ўсе спецыялісты казалі, што ён не будзе прыбытковым. Але ў яго столькі ідэй, і шмат год яны працуюць.

**Манцэвіч**: Тут аб'ектам продажу з'яўляецца мова, а Алесь Наркевіч прадае будаўнічыя матэрыялы.

**Бранцэвіч**: Калі я штосьці купляю для сябе і мне ў адказ на замову тэлефануе прадавец і размаўляе па-беларуску, я так цешуся.

**Наркевіч**: На жаль, на гэтым узроўні пакуль што мова і існуе. Толькі на ўзроўні «вось мы пацешымся і, можа, нешта ў нас некалі атрымаецца». Калі дзяржава не зацікаўленая ў мове, то толькі на актывістах мове ў краіне не застацца і самой краіне не быць.

**Бранцэвіч**: Але ж дзяржава – гэта людзі.

**Наркевіч**: Я назіраю катастрофу, што мы паціху сыходзім.

**Раткевіч**: Ужо не паціху.

**Бранцэвіч**: Нязгодная з вамі.

**Наркевіч**: Я ў гэтым плане песіміст. Адно пытанне гуляць у мову, гэта цяпер трэндава і модна. А другое – тыя актывісты, якіх вельмі мала, фактычна супрацьстаяць дзяржаве і дзяржаўнай палітыцы русіфікацыі. Так званая мяккая беларусізацыя не будзе адбывацца, пакуль не будзе садкоў, школ і ВНУ, гэта ўсё бессэнсоўна. Калі мы палайкаем у інтэрнэце «Мове нанова», гэта файна, але гэта не выратуе краіну ад татальнай русіфікацыі. І ўжо нават роўных умоў з расійскай мовай нам, напэўна, будзе ўжо замала.

Цяпер і ў вёску калі прыязджаю і размаўляю па-беларуску, чую ў адказ «Колхозник какой-то приехал». Дзеці, якія не глядзяць мульцікі па-беларуску, беларусамі не стануць. Мы гуляем і ствараем выгляд, што ўсё наладзіцца.

**Манцэвіч**: А тое, што ў Смаргоні ёсць беларускамоўная група ў садку, дзе Эдзіта Эдуардаўна выхоўвае дзетак па беларуску, – гэта выпадковасць?

**Наркевіч**: Гэта цуд, таму што ў Вілейцы такога няма. Хутчэй за ўсё, гэта настальгія.

**Бранцэвіч**: У нашым садку не адна беларускамоўная група, а тры. Дзетак набіраюць штогод, выбіраюць, на якой мове будуць навучаць. І згодна з гэтым фарміруюць групу. Пасля выбіраюць беларускамоўнага выхавальніка, які добра валодае моваў, мае адпаведную кваліфікацыю. Калі такую групу стварылі, я пачала ў ёй працаваць.

Я маю вышэйшую адукацыю як настаўнік пачатковых класаў і беларускі філолаг.

**Манцэвіч**: З такімі маленькімі дзеткамі цяжэй працаваць, чым са старэйшымі вучнямі?

**Бранцэвіч**: Мне лягчэй, цікавей працаваць з такімі дзеткамі. Гэта чысты ліст. Яны пазітыўныя, вельмі цікавыя, ёсць месца для творчасці. У школе гэта крыху цяжэй зрабіць, ёсць пэўныя строгія межы.

Калі бацькі самі абралі беларускую мову, то разумелі, што ўся адукацыя будзе па-беларуску. Канешне, у іх былі сумненні – а як будзе далей. Усе бацькі хвалююцца за сваіх дзяцей. Ці будзе пераемнасць у школе? Але ўсе гэтыя сумненні развеялі цягам першага года.

Людзі пачынаюць баяцца, калі маюць недастаткова інфармацыі. Калі кожны дзень лаяльна размаўляеш, прыводзіш прыклады, як гэта дзіцяці падабаецца. Канешне, многія баяліся – яшчэ і па-руску не вельмі добра размаўляюць, як будуць беларускую вучыць? Крок за крокам усё гэта ўладжвала.

Калі вы едзеце адпачываць з дзецьмі, на беразе мора ўсе і па-французску, і па-англійску гавораць і адзін аднаго разумеюць. Яны больш увагі звяртаюць на жэсты, міміку.

Мае выхаванцы ў школе будуць вывучаць беларускую мову і літаратуру. І ім будзе нашмат лягчэй, чым тым дзеткам, што навучаюцца ў рускамоўных групах. Яны будуць ведаць значэнне ўсіх слоў, валодаць гукамі, у іх добра развіты фанетычны слых.

**Манцэвіч**: Білінгвамі яны сталі?

**Бранцэвіч**: Яны сталі. Тры гады – унікальны ўзрост, яны схопліваюць усё. Дзве мовы вывучыць ім зусім проста. Была б трэцяя – лічу, і з ёй справіліся б.

**Раткевіч**: У групе 21 дзіця, груп тры. 60 дзетак выхоўваюць па-беларуску – вы толькі нікому не кажыце.

**Бранцэвіч**: Усе бацькі зацікаўленыя ў добрай адукацыі дзяцей. Яны бачаць, якое ў іх ідзе развіццё. Ім жа трэба перакласці, што я сказала, на рускую, свой адказ сфармуляваць па-беларуску – гэта які працэс мыслення! Дзеці аж млеюць, каб у садок прыйсці, у мяне наведванне амаль 100%. Баяцца прапускаць, бо там абавязкова нешта цікавае.

Яны пойдуць у розныя школы і класы, у іх будзе новае акружэнне. Але ў іх будзе свая пазіцыя наконт мовы.

**Манцэвіч**: Кажуць, Маладзечна было больш беларускамоўным у 60-я і 70-я, чым цяпер. Ці праўда гэта? І ці мы больш страцілі або набылі з незалежнасцю?

**Кавалевіч**: Я паступаў 1971 годзе ў політэхнічны тэхнікум, здаваў матэматыку па-беларуску. Выкладчыца, што прымала экзамен, сказала: «Я ничего не поняла, но ставлю вам 4». Хаця адказваў я «на выдатна». Пасля мяне дражнілі. Ну, і я такі: «Давайце ўжо вывучу вашу рускую мову». А з прадметаў па-беларуску – толькі мова і літаратура. Але большасць былі з вёскі, і беларускамоўнае асяроддзе было.

У партыйных і камсамольскіх работнікаў пытанне мовы нават не ставілася. Раз прыехаў з вёскі працаваць у горад – павінны размаўляць па-руску ў афіцыйнай сферы.

У канцы 80-х на «Спадарожніку» пачалі з'яўляцца розныя культурніцкія аб'яднанні, і я ім з партыйнага і чалавечага пункту гледжання спрыяў. Як так – гэта родная мова, і паўсюль павінна гучаць.

Грамадства лічыць, што мова – не самае галоўнае. А дзяржава не лічыць гэта пытаннем. Думаю, змяніць сітуацыю можна толькі тактоўным валявым метадам.

Калі працаваў кіраўніком спраў у гарвыканкаме, парадак дня пісаў па-беларуску. Аддзел архітэктуры і будаўніцтва ўсё пісаў па-беларуску. Залажыў гэта Карпенка і яго штат, а потым усё працягнулі мы. Усе афіцыйныя звароты, віншаванні і выступленні з боку старшыні і іншых былі па-беларуску.

Мае падначаленыя рабілі замаскіраваны сабатаж мне, начальніку – «Нашто нам эта беларуская мова, давайте всё на русском языке». Пасля прыйшлі іншыя старшыні, і ім даводзілася перакладаць. Таму ў канцы дзейнасці рабіў дакументы ў двух варыянтах.

Калі на «Спадарожніку» быў, аплотам беларускага была **Баранава** – жонка афіцэра нашай часці.

**Анісім**: Што ў Палаце прадстаўнікоў, што начальнікі на мясцовым узроўні – заўсёды ёсць такія, што для сваіх жыхароў за час працы не так шмат і зрабілі. А вось **Юры Горлаў**, цяперашні старшыня Маладзечанскага райвыканкама, раней кіраваў Стаўбцоўскім раёнам, з якога паходзіць Якуб Колас.

Размаўляў па-руску, але за яго кіраванне стварылі мурал на дзіцячым садку з выявай, што тычыцца гісторыі горада. Да юбілею горада распісалі сцены чатырох 9-павярховікаў з чатырохрадкоўямі з Якуба Коласа. І іншыя рэчы – гэта зрабіў чалавек, які не адсюль родам.

**Манцэвіч**: Калі Маладзечна рыхтавалі да «Дажынак», горад у многім змяніўся да лепшага, але мы страцілі сваю «Радзіму». (*Маецца на ўвазе гісторыя, калі на кінатэатры шыльду «Радзіма» замянілі на «Родина» – аўтар*). На запыты з просьбай змяніць адказалі, што гэта каштуе грошай. А на «Родину» хіба не каштавала.

**Наркевіч**: У Вілейцы быў канцэрт. За дзве гадзіны па-беларуску з вітальным словам выступіў начальнік аддзела культуры **Сяргей Паўлоўскі** і госць з Маладзечна. Усе дзеці спявалі расійскія песні, аб'яўлялі выступоўцаў па-руску: «А сейчас дети станцуют "Русский самовар"». Дзе 50 на 50, калі дзве дзяржаўныя мовы?

**Анісім**: Трэба памятаць, што мы ў сваёй краіне гаспадары. І падчас перапісу заклікаем сярод родных моў абавязкова пазначаць беларускую. Мы можам колькі заўгодна прасіць дзяржаву з гэтым нешта зрабіць, але яна не робіць. І не будзе, пакуль мы, грамадства, не будзем уплываць.

Універсітэт імя Ніла Гілевіча – справа, якую мы робім, каб дзеці, якія вучацца па-беларуску, бачылі перспектыву. Атрымліваецца ў бізнесоўцаў прасоўваць беларускую мову – нам трэба спрыяць. Ёсць ініцыятыва – мы павінны падтрымаць.

**Раткевіч**: Яшчэ Мураўёў-вешальнік казаў – «Что не сделал русский штык, доделает русская школа». І з таго часу так і ідзе. І калі школы адразу не перавядзеш, то можна пачаць з шыльдаў, каб вакол сябе бачыць мову.

**Бранцэвіч**: Для мовы трэба рабіць тое, што ты можаш. Тут найперш персанальная адказнасць.

**Наркевіч**: Галоўныя праблемы – адсутнасць беларускай адукацыі, тэлебачання, радыё. Мова – гэта душа народа, і цяпер Беларусь без душы. Жыць чужой мовай – тое самае, што жыць чужым розумам. І жывём дзеля некага, хто нам не дапамагае.

**Анісім**: Пытанні беларускай мовы я падымала на ўсіх узроўнях. У тым ліку падчас паслання [Прэзідэнта]. Я мела магчымасць задаць пытанне. І звярнулася да прысутных. Спыталася, калі беларус у Беларусі будзе жыць як італьянец у Італіі і паляк у Польшчы? Размова не толькі пра якасць жыцця, але і пра мову.

Казала пра інфармацыю, заканадаўства і адукацыю. Для чалавека важна, каб было асяроддзе, каб падтрымлівалі мову. Педагагічныя класы ці працуюць па-беларуску? Калі там няма мовы, ва ўніверсітэце няма, то хто будзе вучыць дзяцей?

Наша задача – усё рабіць па-беларуску. Мы перакладалі афіцыйныя дакументы, напрыклад, правілы дарожнага руху. Мы павінны быць гатовыя, што, калі ўлада будзе больш прыхільнай да беларускасці, у нас многае ўжо будзе напрацаванае.

**Кавалевіч**: Трэба адчуць сябе беларусам, і адчуць праз мову. Калі насельніцтва не захоча само размаўляць, што б мы ні рабілі, бессэнсоўна. І тады ўсе ўстановы стануць даступнымі па-беларуску, гэта не будзе ніякай праблемай.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**
**Фота Аксаны ЯРАШОНАК і Ігара ПАЛЫНСКАГА.**

Глядзіце **відэарэпартаж** з падзеі **на rh.by!** Адскануйце QR-код або перайдзіце па спасылцы: **http://bit.ly/stanmovy**



# Эксперт: Чыноўнікам трэба імітацыя дзейнасці, а дактары стаміліся ад рэарганізацый

## Ці вылечаць дактары агульнай практыкі беларускую ахову здароўя ад усіх хвароб?

**Ад 2020 года замест участковых тэрапеўтаў прымаць у паліклініках Беларусі стануць дактары агульнай практыкі. Навошта спатрэбілася змена шыльды і чаго цяпер чакаць пацыентам?**

### «Расія адмовілася, а мы прыслухаліся...»

Доктар агульнай практыкі для Беларусі не навіна. У 1992 годзе загадам Міністэрства аховы здароўя ў наменклатуру пасад увялі такую спецыяльнасць. У 1998 годзе ў Беларускім інстытуце ўдасканалення дактароў (цяпер БелМАПА) адкрылі курс «агульнаўрачэбная практыка». Пасля яго рэарганізавалі ў кафедру, дзе і сёння ўчастковыя тэрапеўты перавучваюцца на дактароў агульнай практыкі. Ад 2001 года рыхтаваць такіх спецыялістаў стаў Віцебскі медуніверсітэт.

Аднак на практыцы інстытут дактароў агульнай практыкі не развіўся. Да 2009 года на ўсю Беларусь іх было 525. Амаль усе працавалі на вёсцы. І толькі адзінкі – у якасці эксперыменту ў паліклініках мікрараёнаў вялікіх гарадоў.

У той жа час стан айчыннай аховы здароўя заўсёды выклікаў шмат крытыкі і незадаволенасці ў насельніцтва. Даследаваўшы скаргі пацыентаў, спецыялісты Міністэрства аховы здароўя прыйшлі да высновы, што беларусаў не задавальняе якасць аказання меддапамогі ў першасным звяне. Чыноўнікаў не мог не турбаваць недахоп кадраў, а дактароў – малыя заробкі.

У 2008 годзе ў Беларусь запрасілі экспертаў еўрапейскага рэгіянальнага бюро Сусветнай арганізацыі аховы здароўя. Год яны маніторылі першасную медыка-санітарную дапамогу ў Беларусі і разам з беларускімі калегамі шукалі спосабы, як яе ўдасканаліць.

Па словах аднаго з пазаштатных спецыялістаў Міністэрства аховы здароўя, які пажадаў застацца невядомым, эксперты САЗ назвалі тады беларускую мадэль аховы здароўя адной з лепшых на постсавецкай прасторы і не раілі адмаўляцца ад дзяржфінансавання і імкнуцца да абавязковага медстрахавання.

У справаздачы эксперты САЗ выпісалі рэцэпт – замяніць участковых тэрапеўтаў на дактароў агульнай практыкі і пераразмеркаваць грошы ў ахове здароўя так, каб не менш за 50 працэнтаў ішло на першаснае звяно.

Такія ж рэкамендацыі САЗ тады атрымала і Расія. Але там прапановы раскрытыкавалі.

– Расія адмовілася, а мы прыслухаліся. І сёння чыноўнікі пераконваюць беларусаў у тым, што дактары агульнай практыкі – гэта панацэя ад усіх хвароб, – кажа пазаштатны спецыяліст Міністэрства аховы здароўя.

– Але, на мой погляд, пакуль фінансаванне аховы здароўя будзе заставацца такім мізэрным, нічога не зменіцца. Чыноўнікам трэба рэарганізацыя, імітацыя дзейнасці. А дактары стаміліся ад рэарганізацый.

### Дапамога у адным кабінеце

Пераймаючы еўрапейскую мадэль першаснага звяна, у Беларусі яе не сталі цалкам капіраваць. У Еўропе доктар агульнай практыкі – гэта сямейны доктар, які назірае пацыентаў не толькі па тэрытарыяльным прынцыпе, але і цэлымі сем'ямі. У Беларусі вырашылі пакуль уводзіць толькі «дарослых» дактароў агульнай практыкі, захоўваючы педыятрыю (на вёсцы гэтыя спецыялісты будуць лячыць і дарослых, і дзяцей). Акрамя таго, не плануецца прыбіраць з паліклінік вузкіх спецыялістаў.

У гарадскіх паліклініках тэрапеўтычныя аддзяленні пераймянуюць у аддзяленні агульнай доктарскай практыкі.

– Гэта будзе не проста змена шыльды, – падабяцаў галоўны тэрапеўт Міністэрства аховы здароўя **Аляксандр Вербавікоў**. – Маецца на ўвазе даабсталяванне кабінетаў, сумак-укладак дактароў сучаснымі танометрамі і тэрмометрамі, пераноснымі электракардыёграфамі і іншай медтэхнікай.

Кожнаму доктару паставяць камп'ютар. У ім – поўная інфармацыя пра пацыента, лячэнне, прэпараты, якія ён прымае. Там жа – вынікі лабараторных, інструментальных, ультрагукавых, рэнтгенаграфічных даследаванняў.

Мяркуюць, што, пабываўшы на прыёме ў доктара агульнай практыкі, пацыент не пойдзе да вузкіх спецыялістаў.

Сярод прыхільнікаў і былы міністр аховы здароўя **Ігар Зелянкевіч**. Ён перакананы, што такія змены сістэмы дапамогуць перамагчы высокую смяротнасць насельніцтва і павялічыць працяглаць жыцця беларусаў, таму што дактары будуць цесна кантактаваць з пацыентамі. Увядзенне доктара агульнай практыкі знізіць нагрузку на вузкіх спецыялістаў, час працы якіх ва ўсім свеце ацэньваецца дорага.

– Доктар агульнай практыкі – гэта інтэграваны погляд на хворага, – кажа Ігар Зелянкевіч. – Добры спецыяліст лечыць не хваробу – ён лечыць канкрэтнага чалавека

Перавагі гэтай мадэлі былы міністр аховы здароўя бачыць у паляпшэнні даступнасці меддапамогі і прафілактыцы захворванняў.



Паводле Нацыянальнага статыстычнага камітэта.

### Рана рабіць высновы

Аднак у медсупольнасці няма поўнага адабрэння новай сістэмы медабслугоўвання.

– Магчыма, ідэя нядрэнная, – кажа доктар-тэрапеўт з 35-гадовым стажам **Людміла Гулевіч**. – Але чаму цяпер трэба ўводзіць у паліклініцы доктара агульнай практыкі? Ці не ад таго, што першаснае звяно адчувае дэфіцыт кадраў? Паліклінікі ж голыя! А так адзін доктар заменіць адразу ўсіх – і вушы палечыць, і вочы праверыць, і рану перавяжа.

У сельскай мясцовасці, магчыма, увядзенне доктара агульнай практыкі – мера апраўданая. Для горада яна добрая тады, калі паліклінікі ўкамплектаваныя.

– Калі ў канцы 1980-х я скончыла медінстытут, уладкавацца на працу ў мінскую паліклініку было нерэальна, і мне адразу плацілі 250 рублёў заробку пры сярэднім па краіне 120. А сёння бяруць усіх ахвотных, таму што аклад тэрапеўта 300 рублёў! Дык можа, спачатку варта вярнуць доктара ў паліклініку, а ўжо потым займацца рэфармаваннем? – адзначае Людміла Гулевіч.

Многія тэрапеўты асцерагаюцца, што з пераўтварэннем у дактароў агульнай практыкі нагрузка на іх павялічыцца, хоць Мінаховы здароўя ўжо перагледзела нарматыў забяспечанасці дактарамі першаснага звяна. У адрозненне ад участковага тэрапеўта, на якога прыходзілася за 1700 чалавек, доктар агульнай практыкі будзе абслугоўваць 1300. Павялічылі час прыёму аднаго пацыента ад 12 да 18 хвілін.

– Але хіба гэта істотная розніца, улічваючы, што доктар агульнай практыкі павінны таксама аказваць дапамогу пацыенту – калі спатрэбіцца, перавязаць і апрацаваць рану або даследаваць вуха з атаскопам? – кажа Людміла Гулевіч. – У прыватных медцэнтрах тэрапеўту адводзіцца на пацыента 30 хвілін, і гэтага часу не заўсёды дастаткова.

Пацыенты асцерагаюцца, што можа знізіцца якасць дапамогі. Яны справядліва ставяць пытанне: наколькі кампетэнтны будзе доктар агульнай практыкі, бо перападрыхтоўка ўчастковых тэрапеўтаў займае максімум чатыры месяцы.

– Часу на перападрыхтоўку, на засваенне дадатковых навыкаў участковым тэрапеўтам далі няшмат, – лічыць прафесар кафедры кардыялогіі і рэўматалогіі БелМАПА **Тамара Цябут**. – Пра гэта кажуць і самі дактары, якія прыходзяць да нас на курсы. За мяжой на такога доктара вучацца шэсць гадоў ва ўніверсітэце і потым яшчэ тры гады, а ў нас некаторыя тэрапеўты ідуць на скарочаныя двухмесячныя цыклы.

У паліклініках прызнаюцца, што некаторыя былыя тэрапеўты, якія ўжо сталі працаваць як дактары агульнай практыкі, не да канца ўпэўненыя ў сваіх сілах.

– Яны не саромеюцца і звяртаюцца да неўролагаў, хірургаў па дапамогу, – распавядае загадчык хірургічнага аддзялення адной гомельскай паліклінікі. – І гэта толькі вітаецца. Мы вельмі спадзяёмся, што дактары агульнай практыкі разгрузяць вузкіх спецыялістаў.

На думку нашага суразмоўцы, калі дактары агульнай практыкі запрацуюць так, як мяркуюць, то чарга пацыентаў да вузкіх спецыялістаў скароціцца ўдвая.

– У нас будзе больш часу і магчымасці разабрацца з найбольш складанымі выпадкамі. Аднак цяпер, – адзначае наш суразмоўца, – з-за абвешчанай аптымізацыі і планаемага з прыходам дактароў агульнай практыкі пераразмеркавання сродкаў, з паліклінік сталі звальняцца вузкія спецыялісты. Яны асцерагаюцца, што дактарам агульнай практыкі не хопіць кваліфікацыі для правядзення лячэння, і, такім чынам, вузкія спецыялісты застануцца з тымі ж нагрузкамі, толькі з меншым заробкам.

– Але давайце дачакаемся хоць бы 2020 года, – падсумоўвае наш суразмоўца. – А ў ідэале, каб убачыць вынікі рэформы, павінна прайсці хаця б гадоў дзесяць. Цяпер высновы рабіць рана.

**Марыя РУДАКОВА.**

ТЭМА НУМАРА

# Як медыцынскія каманды лечаць смаргонцаў

## У горадзе адкрылі аддзяленне, што працуе па прынцыпе доктара агульнай практыкі

СМАРГОНЬ

**Пакуль у сталіцы шмат пішуць і гавораць пра тое, што да канца 2020 года пацыентаў будуць прымаць дактары агульнай практыкі, у Смаргоні ў канцы студзеня адчынілі цэлае аддзяленне, дзе працуюць выключна такія дактары.**



Памочнік доктара Марына Падшывалава выпісвае рэцэпт на лекі.

Пра работу другога тэрапеўтычнага аддзялення карэспандэнту «Рэгіянальнай газеты» расказала загадчыца **Вольга Лукашэвіч**.

– 25 студзеня наша аддзяленне ўрачыста адкрылі, але па прынцыпе доктара агульнай практыкі працуем ад жніўня мінулага года. У аддзяленні – дзевяць дактароў. Большая частка – спецыялісты да 30 гадоў, спецыяльнасць «доктар агульнай практыкі» атрымалі ў медыцынскіх універсітэтах. Аднак ёсць і перавучаныя з тэрапеўтаў.

Па словах загадчыцы, якая сама перавучылася на доктара агульна практыкі, вучыцца трэба два месяцы. Месяц – на тэрапеўтычны профіль. Тут доктар атрымлівае ўменні эндакрынолага, афтальмолага, оталарынголага. Яшчэ месяц – на хірургічны профіль. Гэта накладанне павязкі, апрацоўка ран і пролежняў.

На пытанне, ці не мала двух месяцаў для такой сур'ёзнай вучобы, Вольга Лукашэвіч адказвае, што дастаткова. Усё ж доктар не будзе пасля працаваць хірургам.

Доктар агульнай практыкі мае каманду. Акрамя доктара, тут медсястра і памочнік. Кожны з іх можа прымаць пацыентаў самастойна, згодна са сваімі абавязкамі.

### Што можа рабіць памочнік доктара

Памочнік – фельчар або медсястра з вышэйшай адукацыяй. На прыёме з доктарам сядзіць медсястра. Памочнік асобна – у кабінеце даўрачэбнай дапамогі.

– Раней памочнік доктара не меў такога кола абавязкаў, як пасля ўвядзення доктара агульнай практыкі. Цяпер жа ў кабінеце памочніка акрамя камп'ютара ёсць кардыёграф, глюкометр, табліца для праверкі зроку, атаскоп – прыстасаванне для абследавання вуха, неўралгічны малаток, пікфлометр, каб памераць аб'ём лёгкіх, – распавядае загадчыца.

### Вам даведку ў басейн? Не трэба да доктара

Цяпер, каб атрымаць даведку ў басейн або рэцэпт, не трэба сядзець у чарзе да доктара. Усё выпіша памочнік.

Пацыент без талона ў даўрачэбны кабінет да памочніка займае чаргу. І ўсё ж у ідэале – трэба замовіць талон і да памочніка. Але такіх замоў пакуль мала. Пацыенты па-ранейшаму прывыклі больш давяраць менавіта доктару.

Кожны з членаў медыцынскай каманды – доктар, медсястра і памочнік – маюць камп'ютары на працоўным месцы.

У іх – электронныя дзённікі, электронныя рэцэпты. З часам і карткі пацыентаў стануць электроннымі, сцвярджае загадчыца.

### І ўсё ж на медагляд – да вузкіх спецыялістаў

Ва ўсіх паліклініках пацыентаў дзеляць на тры катэгорыі: Д1 – здаровыя, Д2 – у групе рызыкі, Д3 – людзі з хранічнымі паталогіямі, інваліднасцю. За першымі дзвюма групамі замацаваны памочнік доктара. За трэцяй – доктар, памочнік і медсястра.

Напрыклад, для таго, каб выпісаць рэцэпт чалавеку з інваліднасцю, зрабіць укол ці перавязку, дадому да хворага ідзе медсястра. Пацыентаў з групы Д1 і Д2 на абследаванне выклікае памочнік.

**– З якімі праблемамі пацыент цяпер ідзе да доктара агульнай практыкі, а раней хадзіў да неўролага?**

– Са скаргамі на пастаянны галаўны боль, боль у спіне, у пазваночніку. Доктар агульнай практыкі можа ацаніць неўралагічны статус пацыента. Вядома, калі гэта інфаркт або анкалогія, мы перанакіруем хворага да вузкага спецыяліста.

**– Можа, цяпер і медагляд можна праходзіць у доктара агульнай практыкі?**

– Не. Гэта да вузкіх спецыялістаў. Але калі па нейкай прычыне няма неўролага ці іншага спецыяліста, то мы можам падпісаць медагляд.

**– Заробак доктара агульнай практыкі значна вышэйшы, чым у тэрапеўта? Абавязкаў жа больш.**

– Аклад доктара агульнай практыкі сапраўды вышэйшы за аклад тэрапеўта. Але нязначна.

**– Ці не атрымоўваецца так, што з увядзеннем дактароў агульнай практыкі пацыент атрымае менш кваліфікаваную дапамогу?**

– Наўрад ці. Зразумейце, што калі доктар агульнай практыкі ўбачыць нейкую сур'ёзную праблему, ён у любым выпадку накіруе хворага да вузкага спецыяліста. Калі сістэма дактароў агульнай практыкі будзе працаваць, як трэба, гэта задаволіць і пацыентаў, і дактароў, – лічыць Вольга Адамаўна.

На новых калідорах паліклінікі – увесь час людзі. Але няшмат. Магчыма, адкрыццё аддзялення вырашыць адну з асноўных праблем – чэргі ў медустановах.



Канчаткова праблему чэргаў прынцып дактароў агульнай практыкі пакуль не вырашыў.

### А сталічным дактарам варта павучыцца ў смаргонскіх

А што думаюць смаргонцы пра ўзровень медыцыны ў сваім горадзе?

**Алена, педагог:**

– Стан медыцыны ў Смаргоні не зусім задавальняючы. Хацелася б менш фармалізму, штучных стандартаў, клопату пра людзей, а не пра сістэму.

**Іван, дачнік:**

– Маю кватэру ў Мінску. На Смаргоншчыну, у родную хату, прыязджаю часта. Магу параўнаць медыцыну ў сталіцы і ў Смаргоні. Мінскім дактарам трэба павучыцца ў смаргонскіх чалавечым адносінам да хворых.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

## ХК «Дынама-Маладзечна» 2 лютага прыняў ХК «Металург»

**МАЛАДЗЕЧНА**

З лікам 2:3 у овер-тайме на карысць гасцей скончылася суботняя гульня «зуброў». Але перамога сапернікаў не пагоршыла настрою заўзятараў і хакеістаў. 2 лютага трэнер «бела-сініх» **Юры Файкоў** адзначыў юбілей – яму споўнілася 50 гадоў.

Пасля матча заўзятары падарылі трэнеру торт с лагатыпамі каманды, паветраныя шарыкі і імяннае джэрсі з лагатыпам фанклуба.

– На жаль, сёння не атрымалася парадаваць заўзятараў. Планавалі, вядома, іншае, але думаю, у хлопцаў проста стомленасць назапасілася. Акрамя таго, у калектыў уліваюцца новыя гульцы, і няма яшчэ належнага ўзаемаразумення і зладжанасці дзеянняў. Вялікі дзякуй заўзятарам за віншаванні і падарункі, за падтрымку. Будзем старацца гуляць лепш, – сказаў Файкоў пасля матча.

Здарылася і непрыемнасць: яшчэ ў першым перыядзе гульцы разбілі засцерагальнае шкло – гульню спынілі. Але матч хутка прадоўжыўся.

**Таццяна КАСЬЯН.**

## Медалі заваявалі астравецкія каратысты на Калядным турніры ў Мінску

**АСТРАВЕЦ**

Не толькі пазмагацца за медалі, але і далучыцца да добрай справы змаглі юныя каратысты спартыўнага клуба «Чэмпіён», якія ўдзельнічалі ў мінскім Калядным дабрачынным турніры па спартыўна-баявых адзінаборствах.

Турнір праводзіўся ў шосты раз і традыцыйна праходзіў на пляцоўцы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта фізічнай культуры. Тут адначасова праходзілі спаборніцтвы па каратэ (бескантактны стыль), кёкусінкай каратэ, таэквандо, рукапашным баі, грэплінгу.

Выхаванцы СК «Чэмпіён» удзельнічалі ў дабрачынным турніры другі раз. Астравецкую каманду прадстаўлялі чатыры каратысты – і ўсе яны вярнуліся дадому з медалямі.

**Арцём Шасцялінскі** перамог у катэгорыі да 55 кілаграмаў. **Мікіта Русецкі** і **Канстанцін Пятровіч** выступалі ў катэгорыі да 65 кілаграмаў. У выніку Мікіта стаў срэбраным, а Косця – бронзавым прызёрам спаборніцтва. Бронзавы медаль заваяваў і **Анатоль Велінец**, вагавая катэгорыя да 50 кілаграмаў.

Грошы, сабраныя за ўдзел у Калядным турніры, перадалі на дапамогу хворым дзецям псіханеўралагічных інтэрнатаў.

**Паводле ostrovets.by.**

## Астравецкія баксёры змагаюцца за выхад у фінал спаборніцтваў юнацкай лігі бокса

**АСТРАВЕЦ**

Юныя баксёры Астравецкай спецыялізаванай дзіцяча-юнацкай школы алімпійскага рэзерву змагаюцца за выхад у фінал рэспубліканскіх спаборніцтваў юнацкай лігі бокса сярод удзельнікаў 2005-2006 гадоў нараджэння.

За лідарства рэспубліканская ўзроўню змагаюцца сем каманд: зборныя ўсіх абласцей і каманда горада Мінска. Спаборніцтвы пачаліся ў снежні і працягнуцца да мая. Сустрэчы камандаў праходзяць па кругавой сістэме.

У камандзе баксёраў Гродзеншчыны выступаюць і астраўчане: **Арсень Мялешка** і **Аляксандр Баруўка** спаборнічаюць у вагавой катэгорыі 38,5 кілаграма, **Кірыл Саўко** – 44,5 кілаграма, а вагавую катэгорыю 59 кілаграмаў прадстаўляе **Кірыл Рагавенка**.

Зборная Гродзенскай вобласці ўжо правяла тры сустрэчы. Падчас спаборніцтваў са спартсменамі Віцебшчыны выйгрышны бой правёў Кірыл Саўко. Упэўнена трымаўся на рынгу і Кірыл Рагавенка, але паядынак закончыўся не на яго карысць.

У матчавай сустрэчы з баксёрамі Мінскай вобласці ачко сваёй камандзе прынёс Аляксандр Баруўка, які выйграў у саперніка з Мінскай вобласці. На жаль, Кірылу Саўко пашанцавала менш.

Затое ў спаборніцтвах са спартсменамі Мінска астраўчане былі на вышыні: Кірыл Саўко, Аляксандр Баруўка і Кірыл Рагавенка разгромілі сапернікаў на рынгу, паклаўшы ў скарбонку каманды жаданыя ачкі.

Наперадзе ў гродзенскай каманды яшчэ чатыры сустрэчы – і рэальныя шанцы трапіць у фінальныя спаборніцтвы. Па іх выніках будуць адбіраць кандыдатаў у юнацкую зборную каманду Беларусі.

**Марына МАЦКЕВІЧ, паводле ostrovets.by.**




Фота забеспячэння Таццяны ГАЛОЎЧЫЦ.

Адна з традыцый групы падтрымкі «Лэдзі Дзі» – фатаграфавацца з гледачамі.

# Для выразнай усмешкі – чырвоная памада, для вачэй – smoky ice

## Як дзяўчаты з групы падтрымкі «Дынама» натхняюць заўзятараў і хакеістаў

**Зрабіць эфектны нумар, парадаваць гледачоў і каманду перад чарговым няпростым матчам, натхніць на гульню – менавіта такія мэты ў групы падтрымкі «бела-сініх». Якімі якасцямі трэба валодаць, каб танцаваць на матчах, мы даведаліся ў прадстаўніц групы.**

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Лізавета Радчанка** з «зубрамі» звязаная чатыры гады. Спачатку была заўзятаркай, потым атрымала прапанову танцаваць з групай падтрымкі на розных флэшмобах. Цяпер часам танцуе ў падтрымцы «на падхваце», фатаграфуе матчы і прызнаецца, што ёй вельмі падабаецца.

– Не ведаю, каго можа не зачапіць гэта хакейная сям'я. За ўсе гады праз рады групы падтрымкі прайшло шмат цікавых дзяўчат. Амаль з усімі знаходзілі агульную мову. З сезонам састаў крыху змяняецца, але гэта жыццё.

Некаторыя танцуюць некалькі сезонаў. Нават цяпер набіраюць дзяўчынак яшчэ на гэты сезон. Галоўнае – умець танцаваць і жаданне заўзець за «Дынама».

### Падыходзяць пазнаёміцца хлопцы

Штогод танцы мяняюцца, хочацца зрабіць больш, каб гэта быў не проста танец, а перадача ўсіх эмоцый. Танец складаецца з блокаў, якія танцоркі прыдумваюць самі. Назваў у танцаў няма – іх пазнаюць па асобных рухах.

– Стала традыцыяй ставіць флэшмобы да святаў. Найбольш масавы – навагодні. Там збіраюцца дзяўчаты, якія хочуць сябе праявіць. Кожны раз танцы ставяцца новыя. Сёлета навагодні матч быў рана – 9 снежня. Але гэта нас не збянтэжыла. Мяне папрасілі паставіць флэшмоб, здаецца, атрымалася.

Другая традыцыя – фатаграфавацца на кожным матчы і запрашаць заўзятараў на наступныя. «Лэдзі Дзі» імкнуцца ўдзельнічаць у мерапрыемствах з хакеістамі. Напрыклад, летась 1 верасня хакеісты ў кампаніі «зубра» і дзяўчат з групы падтрымкі хадзілі ў школу-інтэрнат для дзяцей з парушэннямі зроку. Павіншавалі іх з пачаткам навучальнага года, падарылі білеты на хакей.

Дзяўчат можна ўбачыць на кожным матчы. Да танцорак часта падыходзяць моладзь, камунікуе. Некаторыя хлопцы нават знаёмяцца, дзеліцца Лізавета.

### Як выбіраюць макіяж, прычоскі і касцюмы

Якімі будуць прычоскі і касцюмы, дзяўчаты вырашаюць разам і заўжды падбіраюць іх пад танец.

– Напрыклад, калі браць навагодні флэшмоб, то галоўным элементам былі навагоднія каўпакі з лагатыпам каманды. Такім чынам, мы не маглі зрабіць тыя ж коскі ці хвосцікі – іх проста не бачна. Таму накруцілі валасы і прыбралі назад. Пад гэтыя шапачкі выдатна падыйшлі бела-сінія бодзі і сінія спаднічкі. Так нарадзіўся наш навагодні сёлетні вобраз.

А вось асаблівасцяў у нанясенні макіяжу няма. Заўсёды стандартны smoky ice. Гэта пераход або ад серабрыстага колеру ценяў да чорнага, або ад карычневых – у чорны. Памаду выкарыстоўваюць чырвоную, каб усмешка была выразнай.

### Танец і хакей – адзінае цэлае

**Таццяна Галоўчыц** танцамі пачала займацца яшчэ з садка. У школе трапіла ў клас з харэаграфічным ухілам. Пасля вырашыла звязаць з танцамі жыццё. Цяпер ёй 17, вучыцца ў гімназіі-каледжы мастацтваў, атрымлівае прафесію харэографа.

Таццяна танцуе і за межамі арэны, выступае на конкурсах, з'яўляецца ўдзельніцай шоу-балета «Марыён», два гады выкладае дэфіле і харэаграфію ў школе моды **Сяргея Нагорнага**.

У групу падтрымкі трапіла па прапанове адной з былых удзельніц, **Вікторыі Троцкай**.

– У той момант трохі збянтэжылася, было страшна і адначасова хацелася нечага новага ў жыцці. Але вырашыла паспрабаваць.

Для танцоркі танец і хакей – адзінае цэлае. Калі яна выходзіць на лёд, адначасова перажывае за каманду, за першую забітую шайбу і за танцы, якія група паказвае гледачам.

– Вядома, найбольш танцую для гледачоў, яны павінны захапляцца вамі і вашай усмешкай, бачыць карцінку з прыгожымі элементамі танца. Гледача не павінны хваляваць вашы каменныя твары і тое, што адбываецца за межамі сцэны.

**Таццяна КАСЬЯН.**

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
2. Спачатку на савецкай прасторы збіраць не ініцыяваў Ленін. А пасля да справы прыцягвалі школьнікаў. Праводзілі спаборніцтвы па зборы, а пераможцы атрымлівалі білеты ў кіно, значкі.
3. Паводле забабонных уяўленняў – злы дух, які мае выгляд істоты, пакрытай чорнай поўсцю, з рагамі, капытамі і хвастом; д'ябал.
8. На мінулым тыдні грамадскасць была ў шоку: у гэтым горадзе ЗША на пабярэжжы возера Мічыган тэмпература была ніжэй, чым у Антарктыдзе.
9. Парода дрэва, з якога здымаюць кару для коркаў бутэлек для віна.
10. У часы Першай сусветнай вайны пілоты для бяспекі выкарыстоўвалі гэты кухонны прадмет – клалі на сядзенне. Кажуць, што два такія прадметы абаранялі нават ад выстралу вінтоўкі.
11. Сістэма ведаў аб закамернасцях развіцця прыроды, грамадства, мыслення і спосабах уздзеяння на навакольны свет.
15. Правілы паводзінаў для ўсіх жыхароў краіны.
18. Прозвішча акцёра Мінскага абласнога тэатра, якому ў студзені споўнілася 60 год.
20. Прозвішча прэзідэнта Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1917–1919 гадах.
21. Рад гарызантальна размешчаных прадметаў адзін над другім.
22. Геаметрычная фігура без вуглоў.
24. Парусное, маторнае або паравое спартыўнае ці турысцкае судна.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Недалёка ад гэтага горада на ўзбярэжжы Каспійскага мора ў 1968 годзе былі здымкі фільма «Белае сонца пустыні».
4. Цэнтр Завілейскага павета, які ўзнік у 1791 годзе, згодна з канстытуцыяй Рэчы Паспалітай.
5. Менавіта так называецца кропка над «і».
6. Жалезны кручок з ручкай для падымання і пераносу патэльні.
7. З якой прычыны?
12. Аб'ект крытычнага даследавання Сымона Беднага.
13. У час Першай сусветнай вайны здарыўся такі выпадак. Салдат брытанскай арміі трапіў у палон. Аднойчы ён напісаў ліст кайзеру, каб дазволіў апошні раз убачыць яе. Кайзер дазволіў. Салдат пахаваў яе і вярнуўся з Вялікабрытаніі ў палон. Ён не хацеў, каб з-за яго у такіх просьбах адмаўлялі іншым. Да каго з палону вярнуўся салдат?
14. Янтар.
16. Адпаведніка гэтаму беларускаму слову ў рускай мове няма. Азначае – ва ўсіх накірунках, у межах агляднай прасторы.
17. На адным з яго канцэртаў да спевака прыставілі пажарнага. Каб хадзіў з вядром вады і збіраў акуркі, якія раскідваў маэстра. А аднойчы ён прыйшоў у банк без дакументаў. Грошы выдаваць не хацелі – як жа спраўдзіць, хто гэта. Калі ён заспяваў, сумненняў не засталося.
19. Сотая частка кіламетра.
22. Першае імя Пане Каханку.
23. Уладзімір Някляеў: «У госці прыходзяць снягі Не шумным застоллем, Заціšшам…».
25. Ён знішчыў Патэнтнае бюро ў 1836 годзе разам з патэнтамі, што назбіраліся за 300 год. Было каля 10 000 патэнтаў, з якіх аднавілі толькі 2 845.

## Адказы на крыжаванку з №5

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 3. Казна. 5. Манака. 7. Камертон. 8. Мадагаскар. 9. Гарызонт. 11. Калумб. 13. Медзь. 16. Лірыка. 17. Балота. 21. Амулет. 23. Дзюба. 25. Моцарт. 27. Кенія.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Легенда. 2. Піраміда. 4. Помнік. 6. Танга. 10. Барабан. 12. Лётчык. 14. Агонь. 15. Пастка. 18. Экватар. 19. Добра. 20. Флейта. 22. Бульба. 23. Дзеці. 24. Дэмакратыя. 26. Гадзіннік. 27. Касты.



## ● ГАРАСКОП 8-14 ЛЮТАГА

**АВЕН.** У вас вялікі патэнцыял энергіі, але лепшае выйсце цяпер – заняць сябе чым-небудзь не надта сур'ёзным і значным, напрыклад, спортам ці прыборкай дома.

**ЦЯЛЕЦ.** Вас чакае поспех на працы, усё будзе складвацца як найлепш. Не забывайцеся пра ўласнае жыццё. Калі маеце справу з вялікімі грашыма, сем раз падумайце, куды іх патраціць.

**БЛІЗНЯТЫ.** Пры вырашэнні важных пытанняў не спяшайцеся, бо над якім бы вы пытаннем ні ламалі галаву, памятайце: першае рашэнне, якое здаецца відавочна правільным, на самой справе будзе памылковым. Таму абдумайце сітуацыю, прыміце да ведама дробныя дэталі.

**РАК.** Бярыцеся за адну справу ці за другую, галоўнае, не перанапружвайцеся. Гэтыя дні не прапануюць дасягнення вынікаў, асабліва поспеху, таму няма патрэбы даймаць сябе спробамі нешта абавязкова зрабіць ці паспець. Лішняе і непатрэбнае адыдзе само, а тады стане ясна, за што трэба брацца, а што адпусціць.

**ЛЕЎ.** Вы будзеце актыўныя і энергічныя. Але накіроўвайце энергію ў правільнае рэчышча, тады яе хопіць на доўгі час. Выхадныя прысвяціце адпачынку, а не дамашнім справам. Іх, вядома, таксама рабіць трэба, але яны пачакаюць.

**ДЗЕВА.** У галаве могуць раіцца розныя планы, але вось за які ўзяцца і пачаць яго выконваць, а самае галоўнае, дзе знайсці на ўсё гэта выканаўцаў? Лепшым выбарам для вас будзе адпусціць сітуацыю на вольнае цячэнне і не рабіць асабліва актыўных дзеянняў.

**ШАЛІ.** Вас чакаюць прыемныя перамены да лепшага. Не дазваляйце таму, што наканавана вам лёсам, прашмыгнуць міма. У вас праявіцца здольнасць прыцягваць тое, што вы захочаце. Усе жаданні павінны здзейсніцца.

**СКАРПІЁН.** Пачынаецца новы этап партнёрства. Цяпер закладваюцца важныя асновы для далейшага жыцця, і хоць глабальных пераменаў пакуль не бачна, першыя крокі будуць зроблены менавіта ў гэты час, а канчатковы вынік выявіцца значна пазней. Будзьце ўважлівыя да ўсіх прававых момантаў і дакументацыі. Спадзявацца на іншых людзей можна, але не на ўсіх запар, дапамога і падтрымка ідуць толькі ад самых блізкіх вам людзей.

**СТРАЛЕЦ.** «Пасяліце» ў сваім сэрцы любоў, мяняйцеся самі да лепшага, і тады вы будзеце аказвацца ў патрэбным месцы ў патрэбны час.

**КАЗЯРОГ.** З'яўляецца магчымасць скарэктаваць планы на будучыню. Магчыма, блізкія будуць незадаволеныя вашымі рашэннямі, але да канфліктаў справа не дойдзе.

**ВАДАЛЕЙ.** Вы проста абавязаныя ўнесці ў сваё жыццё новы струмень! Любыя пачынанні будуць падтрыманы. І ведайце, што пазітыўныя думкі здольныя збывацца. Цяпер актывуецца падсвядомасць, могуць быць яркія і важныя сны. Звярніце на іх увагу, можа, менавіта ў іх вам даецца нейкая падказка.

**РЫБЫ.** Важная і карысная інфармацыя будзе сыпацца на вас адусюль, але паступаць яна будзе ў злёгку завуаліраваным выглядзе. Таму прыслухоўвайцеся не толькі да галасоў звонку, але і да голасу інтуіцыі знутры.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 7 | | 8 | 5 | | | 2 |
| | | 8 | | 1 | 6 | | | |
| | 6 | | 2 | | | | 9 | |
| | | | 4 | | | 3 | | |
| | | | 1 | | 3 | 2 | | 7 |
| | 3 | 2 | | 5 | | | 1 | |
| | | 3 | | | | | 4 | 5 |
| 6 | 8 | | | | | 7 | | |
| 5 | | | 8 | | | 9 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

## Чытайце праз тыдзень

- Гэтай зімой у мікраёне Карані ў Смаргоні здымаецца кіно пра Першую сусветную. Рэжысёр – Аляксей Туровіч – чалавек, жыццё якога цесна звязанае са Смаргоншчынай і Ашмяншчынай і ўвогуле з усім нашым рэгіёнам.



## У Солах пад Смаргонню пасялілася казуля Машка

СМАРГОНЬ
АШМЯНЫ

**У аграгарадку Солы, што паміж Смаргонню і Ашмянамі, жыве казуля па мянушцы Машка.**

Людзей яна не баіцца, спакойна гуляе па цэнтры пасёлка, дае сябе пагладзіць. А ноччу сыходзіць у лес. Мясцовыя жыхары яе кормяць.

**Паводле kp.by.**



Фота vk.com/gluhi.smorgon.

Машка не баіцца людзей і спакойна гуляе па цэнтры пасёлка.



## 9 лютага, субота

**Вецер:** паўднёвы, 5-6 м/с




**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я.** НАРАЧ

Мінімальная тэмпература -20,8°С у 2005 годзе
Максімальная тэмпература +8,1°С у 2016 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 12,3 мм у 2013 годзе

Паводле meteoinfo.by.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Як вы ў школе жартавалі ці здзекаваліся з настаўнікаў?



**Ілона Клімянок, тэхнік-тэхнолаг, у дэкрэтным адпачынку:**

– Памятаю, як воскам нацерла дошку ў месцы, дзе настаўнік фізікі пісаў дату. Ён стаў у пачатку ўрока пісаць яе, а нічога не атрымоўвацца. Праз час мы карэктарам напісалі дату, ён так старанна выціраў… А потым нас чакала пазапланавая пісьмовая праверачная «дамашка».



**Вячаслаў Пульскі, намеснік дырэктара аграфірмы:**

– У часы маёй вучобы для нас настаўнік быў і цар, і бог, і воінскі начальнік. Вучыўся ў СШ№9 і скончыў яе ў часы Савецкага Саюза ў далёкім 1976 годзе.



**Раман Аміраў, індывідуальны прадпрымальнік:**

– Сёлета – 10 гадоў, як скончыў СШ№1 імя Янкі Купалы. Здзекаў увогуле не было. Жарты і выхадкі накіроўваліся на прыцягненне ўвагі да сябе, на ўзняцце папулярнасці, але ні ў якім разе не на абразу і тым больш на здзек.



**Наталля Цюрына, эканаміст:**

– Не памятаю, як з настаўнікаў, але адзін з аднаго вучні здзекаваліся. Кнопкі падкладалі, жукі на стул клалі, здаецца, нават клей ліў.



**Алена Бяганская, фатограф, спецыяліст па працы з кліентамі:**

– Нічога такога не было. Але калі не рабілі дамашнюю работу па хіміі, то размаўлялі з выкладчыкам пра палітыку. У нас хімік вельмі любіў пра гэта пагаварыць, мог пра ўсё забыць, нават пра дамашнюю работу і хімію.



**Андрэй Рынкевіч, фатограф:**

– Ды асабліва ніхто і не здзекаваўся. Бо школу скончыў у 1999 годзе, рубеж быў пройдзены, а Краіна Саветаў яшчэ не памерла. І выхаванне адрознівалася ад сучаснага. Вучыўся ў гімназіі-каледжы мастацтваў.



**Дзяніс Баброўскі, манцёр будаўнічых рыштаванняў:**

– Ваду на мяккую частку крэсла ліў. Неяк не выпускалі з урока, скокнуў у акно. Няўдала прызямліўся, у вадасцёк, звязкі парваў на назе. Шмат чаго было. Адлёты ўсе былі тады. Вучыўся ў 14-й школе, скончыў недзе ў 2009 годзе.

**Падрыхтавала Таццяна КАСЬЯН.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4200 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№6 (1241) 8.02.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 212. Падпісана ў друк у 9.00 7.02.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.